ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

2 верасня 1994 г. № 35 (3757) Кошт 25 руб.





*Да Бога як да ісціны... Да Бога — як да ачышчэння... Так было здаўна. Гэтак становіцца і сёння. У наш такі складаны, супярэчлівы і разам з тым цудоўны час. Цудоўны ўжо таму, што набывае размах нацыянальнае Адраджэнне, а Беларусь, нягледзячы ні на якія цяжкасці, пачынае адчуваць сябе Дзяржавай. З'яўляюцца і ўласныя, а не запазычаныя ў іншых, святы. Адно з іх — Свята Беларускага пісьменства і друку. Пачалося яно ў Мінску ў Свята-Духаўскім кафедральным саборы, дзе адбыўся малебен, і адкуль у шлях па Беларусі адправілася Непагасная лампада духоўнасці са святым агнём ад Гроба Гасподня.*

*(Пра ўрачыстасці, прысвечаныя святу, чытайце на стар. 3-4).*

*Фота БЕЛІНФАРМ*



# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Мы перасталі ўжо звяртаць увагу на ледзь не штодзённыя паведамленні пра чарговае падаражанне паслуг, прадуктаў, паліва... жыцця наогул. Не таму, што прывыклі (прывыкнуць да гэтага немагчыма), а проста сцярпеліся, змірыліся, як з чымсьці такім, што ад нас не залежыць, скажам — дрэнным надвор'ем... Але другое за час прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі павышэнне цэнаў на гарэлку здзівіла. Не самім фактам, а вынікамі. Паўлітэрка беларускай гарэлкі па першым часе стала каштаваць больш, чымсьці літр імпартнай. І зніклі чэргі да віна-гарэлачных аддзелаў у крамах. Прэзідэнт хацеў ручай гарэлкавых грошай ператварыць у раку, а ён можа перасохнуць зусім, бо прабівае сабе рэчышча побач, у другую «кішэню» — да камерсантаў. Тое ж і з цыгарэтамі — другім найважнейшым сродкам папаўнення бюджэту і «ажыўлення» эканомікі — хто ж будзе купляць айчынныя, калі імпартныя каштуюць менш пры лепшай якасці... Прэзідэнт не збіраецца спыняцца на дасягнутым. У «Моманце ісціны» ён заявіў, што, калі трэба будзе, павысіць цэны на гарэлку яшчэ ў дзесяць разоў... Аднак, на жаль, пан прэзідэнт, шукаць трэба іншыя хады, а тут, як кажуць, лавачка зачынена. Рынак на двары. Канкурэнцыя. Аб'ектыўная, так бы мовіць, рэальнасць, якая, ці не ўпершыню на Беларусі пачынае дыктаваць свае ўмовы. І цэны. Наступны «выратавальны» крок хіба што дзяржаўная манаполія...***

## *ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ*

На сустрэчы з распрацоўшчыкамі антыкрызіснай праграмы прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка запэўніў, што кожны са 150 спецыялістаў, якія працуюць над дакументамі, будзе персанальна адказваць за падрыхтаваныя ім палажэнні праграмы. Адказнасць — гэта добра. Аднак ці не нагадвае вам *такая «персанальнасць» вядомы маналог Райкіна пра тое, як яму шылі* касцюм: «Неаднолькавыя рукавы? Але я прышываў гузікі... да гузікаў прэтэнзіі ёсць?»

## *СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Замест трох міністэрстваў, якія кіравалі будаўніцтвам і эксплуатацыяй аўтадарог, архітэктурай і будаўніцтвам, вытворчасцю будматэрыялаў, загадам прэзідэнта створана адно: Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі, якое будзе выконваць функцыі былых трох. Намер цудоўны, але ў нас, на жаль, часцей бывае так, як пісаў класік: «Для таго, каб скараціць, трэба павялічыць...» Такі прыклад прывёў на прэс-канферэнцыі новы міністр абароны А. Кастэнка. Некалі ён пачынаў скарачэнне беларускага войска, якое прадоўжыў ягоны наступнік П. Казлоўскі. Вярнуўшыся на свой ранейшы пост А. Кастэнка ўбачыў, што ўпраўленчы апарат Міністэрства абароны за час скарачэння войска павялічыўся больш чым у два разы...

## *ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Міністрам адукацыі і навукі Беларусі стаў Васіль Стражаў — былы намеснік міністра адукацыі, а трохі раней — партыйны работнік. Рана рабіць нейкія вывады. Застаецца толькі спадзявацца, што і пры ім беларускія школы і навука будуць развівацца менавіта як беларускія... Пакуль не ясная застаецца сітуацыя з Міністэрствам культуры і друку. Але М. Чыгір на прэс-канферэнцыі запэўніў журналістаў, што на наступным тыдні фарміраванне ўрада будзе закончана. Такім чынам, чакаць творчай інтэлігенцыі новага кіраўніка засталося нядоўга.

## *ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ*

30 жніўня першаму прэзідэнту Беларусі споўнілася ўсяго толькі 40 гадоў. Афіцыйных урачыстасцяў у сувязі з гэтым не было — паведамляе друк. Узнагарод, да якіх мы прывыклі падчас «застою», — таксама. Арыгінальны падарунак прэзідэнту зрабіў старшыня Саюза прадпрымальнікаў рэспублікі У. Карагін — ён падараваў А. Лукашэнку кнігу М. Портэра «Міжнародная канкурэнцыя». Тэлеграмай павіншаваў Яго Правасхадзіцельства пана Лукашэнку Б. Ельцын.

## *ЗЫХОД ТЫДНЯ*

Пазаўчора апошні расійскі салдат пакінуў нямецкую зямлю. Ва ўрачыстай цырымоніі провадаў прыняў удзел расійскі прэзідэнт Б. Ельцын. Заканчваецца вывад расіскіх войск і з краін Балтыі. Хто наступны запатрабуе, каб расійскія хлопцы вярнуліся дамоў і абаранялі сваю Радзіму на сваёй зямлі — Украіна, ці мо Беларусь?

## *НЕДАРЭЧНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Газеты стракацяць паведамленнямі пра тое, што калгасы і саўгасы Беларусі завяршаюць уборку збожжа. І амаль ніхто не прыгадвае, што ёсць жа ў нас і фермеры. Хай мала іх, але і яны стараліся вырасціць добры ўраджай. Як справы ў іх? А ніяк... Альбо як у Някрасава ў «Нязжатай паласе»... Не маюць нашыя фермеры патрэбнай тэхнікі і стаяць іх палі ў большасці няўбранымі.

## *ПАГРОЗА ТЫДНЯ*

Як і трэба было чакаць, валтузня з фальшыўкамі-запалохваннямі лідэраў Народнага руху Беларусі быццам бы нейкімі нацыянал-фашыстамі, скончылася стварэннем яшчэ адной «грамадскай» арганізацыі — Рэспубліканскага антыфашысцкага цэнтра, заяўка на рэгістрацыю якой пададзена днямі ў Мінюст. Супраць каго ж будзе змагацца РАФЦ? Ці не супраць «нацыяналістаў», толькі за тое, што гавораць па-беларуску, ці не супраць беларусізацыі, як парушэння правоў чалавека? Калі так, то што такое «фашызм» і што такое «антыфашызм»?

## *ЛІЧБА ТЫДНЯ*

5,1 мільёна чалавек (альбо кожны другі жыхар Беларусі) штомесяц будуць атрымліваць кампенсацыю ў сувязі з ростам цэн і паніжэннем узроўню жыцця. Гэта ў першую чаргу пенсіянеры, сем'і, што выхоўваюць дзяцей, студэнты, беспрацоўныя. У месяц з дзяржбюджэту на гэтыя мэты будзе выдзяляцца 417 мільярдаў рублёў. Ці не ўпершыню прызнана, што за рысай беднасці ў нашай краіне знаходзіцца палова насельніцтва. Але бяда і ў іншым: *зноў паўтараецца гісторыя з ільготнікамі, што маюць права* бясплатна карыстацца гарадскім і прыгарадным транспартам. Ці не варта больш рэзка і дакладна акрэсліваць кола тых, каму трэба дапамога? Бо вельмі шмат пенсіянераў, асабліва сярод тых, што яшчэ працуюць, маюць значна большы даход, чымсьці маладыя сем'і з адным дзіцем. Тым не менш першыя атрымаюць кампенсацыю, а другія — не.

## *СВЯТА ТЫДНЯ*

У вялікім свяце гэтага тыдня — Днях беларускага пісьменства і друку — «схавалася» яшчэ адно, не менш значнае: Дзень ведаў. Нашыя дзеці пайшлі ў школу... Як бы цяжка нам ні жылося сёння — жыццё працягваецца.

З нагоды

# ТАМ МЫ ЎЖО БЫЛІ

Калі чуеш слова «Расія», дык на ўсялякі выпадак варта ўдакладняць, пра што ідзе гаворка. Бо ў залежнасці ад кантэксту размовы, а таксама ад выхавання, інтэлекту і палітычных поглядаў вашага субяседніка гэтае слова можа мець розны сэнс. У адных выпадках пад Расіяй разумеецца ўласна расійская зямля, у другіх — *шматнацыянальная дзяржава* Расійская Федэрацыя. Калі атаясамліваюць «Расію» і «Русь», дык «Расія» — гэта Масковія з даважкам у выглядзе Беларусі і Украіны. А сёй-той і сёння гаворыць «Расія», а пры гэтым лашчыць думку пра Расійскую імперыю ўзору 1913 года (тады святкавалася 300-годдзе дынастыі Раманавых на расійскім троне і гэта быў *апафеоз напярэдадні* скону). З Расіяй атаясамліваўся Савецкі Саюз, цяпер тое ж робіцца ў адносінах да СНД. Часта з вуснаў дыктара тэлеканала «Астанкіна» (а канал гэты афіцыйна лічыцца не расійскім, але міждзяржаўным) можна пачуць: «Новости в стране (у сэнсе Расіі) и за рубежом». А калі ў раздзеле спартыўнай хронікі той жа дыктар гаворыць пра «нашу команду», «наших спортсменов» — дык гэта расійская зборная, расійскія *спартсмены. Можа, гэта і драбяза,* але яна адлюстроўвае вельмі небяспечную тэндэнцыю.

Уласна расійскія інтарэсы трактуюцца як інтарэсы ўсіх краін Садружнасці. Напрыклад, расійскія сродкі масавай інфармацыі называюць дзеянні афганскіх маджахедаў на афгана-таджыкскай мяжы «вызовом всему содружеству». Выклік Таджыкістану і Расіі, якая падтрымлівае афіцыйны Душанбэ, — так. Да нейкай ступені сумежным з Таджыкістанам краінам — колішнім савецкім сярэднеазіяцкім рэспублікам. Але да маёй краіны гэта дачынення не мае. Беларусы, зразумела, спачуваюць ахвярам братазабойчай вайны і агрэсіі, але не да такой *ступені, каб тушыць сваёй крывёю* чужыя пажары, пасылаць свае вайсковыя падраздзяленні за тысячы кіламетраў ад сваёй зямлі. А менавіта такі падтэкст у прыгаданай заяве пра «вызов Содружеству». Ды і расійскія вайскоўцы патрабуюць ад свайго прэзідэнта і ўрада «шырэй задзейнічаць у міратворчых акцыях партнёраў па СНД».

*Сілай зброі захаваць свой уплыў* нават у «блізкім замежжы» Расія сёння ўжо не здольная, а да іншых сродкаў не звыклая. Адсюль — псіхалагічная «ломка», так званы постімперскі сіндром. Гэта ў свой час перажылі ангельцы і французы, цяпер чарга расійцаў.

Хацелася б звярнуць увагу на адзін момант у адносінах Расіі з краінамі СНД і Балтыі. Ва ўсіх краінах, што ўтварыліся на прасторы былога СССР, дзе большы, дзе меншы працэнт *насельніцтва складаюць рускія і* рускамоўныя жыхары. Уздым шавіністычных, праімперскіх настрояў у Расіі прымушае карэннае насельніцтва ў постсавецкіх дзяржавах і на «сваіх» рускіх глядзець з падазронасцю. Кіраўніцтва Расіі не ўпускае выпадку, каб лішні раз нагадаць сусветнай супольнасці аб праблемах (рэальных і надуманых), з якімі сутыкнуліся расійцы ў прыгаданых дзяржавах, але сама Расія не робіць нічога (ці амаль нічога), каб прыняць магчымых бежанцаў на гістарычнай радзіме, калі былым «старэйшым братам» прыйдзецца не даспадобы статус *нацыянальных меншасцяў* у чужых краінах. Між тым як Расія магла б плённа скарыстаць вопыт рэпатрыяцый, напрацаваны Германіяй альбо Ізраілем. Гэтага не робіцца, усе сілы ідуць на вэрхал пра «дыскрымінацыю» ! «парушэнні правоў» рускамоўнага чалавека. Складваецца ўражанне, што Расія хоча, каб расійцы засталіся там, дзе яны зараз ёсць. Каб у будучым скарыстаць іх як «пятую калону» і сродак палітычнага ціску на суседзяў. Такая *вось праява постімперскага сіндрому,* такая маніпуляцыя чалавечымі лёсамі.

Цяжка даецца нашым усходнім суседзям новы погляд на свет і сваё месца ў гэтым свеце. Таму алеем на імперскія раны было нядаўняе інтэрв'ю з прэзідэнтам Беларусі, паказанае па тэлебачанні. У Расіі цяпер з захапленнем цытуюць словы Аляксандра Лукашэнкі пра «старэйшага брата», пра тое,. што Белавежскія пагадненні — «злачынства», аб намеры нашага прэзідэнта здзейсніць «воссоединение» (слова якое!) Беларусі з Расіяй.

Спадар Лукашэнка шчыра ўпэўнены, што пад Расіяй беларусам будзе лепей. І робячы небяспечныя заявы, ён зыходзіў з найлепшых намераў. Але, як кажуць, добрымі намерамі насцелена дарога ў пекла... Там мы ўжо былі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# НА ГЭТЫ РАЗ НЕ ЦІКАВА

А ў Доме ўрада адбыліся змены. Я, вядома, маю на ўвазе не новы Кабінет Міністраў, сфармаваны *Прэзідэнтам РБ Аляксандрам* Лукашэнкам, а змены чыста знешнія, якія тычацца ўнутранага рэжыму гэтага вядомага ўсім будынка на плошчы Незалежнасці.

Я тут не быў два месяцы, і першае, што, прызнацца, адразу непрыемна ўразіла мяне, гэта катэгарычная прапанова дзяжурнага міліцыянера ахovы (ужо калі прозвішча маё было ім *знойдзена ў спісе дапушчаных на* ўрадавую прэс-канферэнцыю) прайсці праз рамку металоўлоўніка, накшталт той, што ўстаноўлены ў буйных аэрапартах. Працэдуру гэтую давялося паўтарыць некалькі разоў, бо кожны раз апарат падаваў сігнал трывогі. «Супакоіўся», нарэшце, ён, калі я вытрас з кішэняў ключы і іншыя металічныя прадметы. Зазірнуўшы ў мой дыпламат і нічога, акрамя блакнота і парасона не ўбачыўшы, ахоўнік, нарэшце, дазволіў прайсці.

Штотыднёвыя прэс-канферэнцыі ці брыфінгі, якія пачаў праводзіць новы Кабінет Міністраў, — з'ява, якую ў нашым грамадскім жыцці дагэтуль уявіць было цяжка. Яны, натуральна, вельмі прыхільна былі сустрэты ўсёй пішучай «брацій». Па водгуках калег, дзве ці тры такія прэс-канферэнцыі, што ўжо адбыліся, пакінулі ў іх добрае ўражанне, — *спадабалася, здаецца, шчырае* жаданне першых асоб урада падзяліцца з журналістамі ўсім, што іх непакоіць, азнаёміць з мерамі, што прымаюцца для ратавання краіны, якая апынулася ў глыбокім эканамічным крызісе.

Прэс-канферэнцыя, на якой пабыў я, была ацэнена многімі прадстаўнікамі мас-медыя пасля яе заканчэння, як не вельмі цікавая. Магчыма, гэта адбылося таму, што на ёй асноўны націск быў зроблены на асвятленні работы «сілавых» міністэрстваў — абароны, унутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі, *якія прадстаўлялі* адпаведна генералы А. Кастэнка, Ю. Захаранка і У. Ягораў. Пытанні, звязаныя з іх дзейнасцю, вядома, вельмі важныя, але, відаць, усё-такі знаходзяцца на перыферыі (мо хіба толькі акрамя праблемы барацьбы з крымінальнай злачыннасцю) увагі грамадскасці, занепакоенай, у першую чаргу, катастрафічным заняпадам жыццёвага ўзроўню.

На жаль, прэм'ер-міністр М. Чыгір, які таксама прыняў удзел у прэс-канферэнцыі, у сваім кароткім выступленні абмежаваўся толькі расказам аб сваёй нядаўняй паездцы ў Славацкую рэспубліку, дзе ён прымаў удзел у святкаванні 50-х угодкаў славацкага паўстання супраць гітлераўскіх акупантаў. Праўда, цікавымі падаліся некаторыя падрабязнасці гэтага візіту, а менавіта, сустрэчы з прэзідэнтам Славакіі, якому было перададзена запрашэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі наведаць нашу краіну, і дасягнутая дамоўленасць з урадам Славакіі аб пастаўцы Беларусі 100 тысяч тон пшаніцы цвёрдых гатункаў. Пры нашым сённяшнім неўраджаі важнасць гэтага пагаднення цяжка пераацаніць. Да таго ж, як падкрэсліў прэм'ер, разлікі за пшаніцу будуць *весціся на бартэрнай аснове, што* пры нашым крайнім дэфіцыце валюты таксама вельмі важна.

Генерал-палкоўнік А. Кастэнка праінфармаваў журналістаў пра тое, чым жыве сёння войска, як праводзіцца ваенная рэформа. Як можна было зразумець міністра абароны, пакуль што яе вастрыё скіравана ў асноўным на скарачэнне Узброеных Сіл, колькасць якіх будзе даведзена да 80 тысяч чалавек. Будзе *радыкальна скарочана і ўпраўленчае* звяно Мінабароны. У расказе А. Кастэнкі маю ўвагу спыніла і такая дэталь — *рэзкае павелічэнне* выпадкаў (у 3—3,5 раза) нестатутных адносін ў войску, а працей «дзедаўшчыны». Адразу ўспомнілася мая гутарка з ім, тады камандуючым войскамі Беларускай ваеннай акругі, некалькі гадоў назад, калі Анатолій Іванавіч таксама з трывогай гаварыў аб гэтых з'явах у войску. Адным словам, хранічная хвароба, канца якой не відаць.

*Старшыня* КДБ У. Ягораў *адразу* нагадаў прысутным, што ўжо даў некалькі інтэрв'ю рэспубліканскім газетам, дзе выклаў усё пра дзейнасць свайго ведамства і паўтарацца яму цяпер не выпадае. Ажыўленне прысутных выклікала толькі пытанне аднаго з журналістаў пра пакуль што «засакрэчаны» праект прэзідэнцкага ўказа аб КДБ, дзе быццам бы прапанавана аднавіць *за Камітэтам* дзяржбяспекі функцыю палітычнага вышуку. У. Ягораў катэгарычна запярэчыў, што ніякага вяртання «назад» не прадбачыцца, а «падслухоўванне тэлефонаў» калі і будзе весціся, дык толькі з санкцыі пракурора. Шэф КДБ выказаў незадаволенасць паведамленнямі асобных сродкаў масавай інфармацыі аб праявах фашызму, неанацызму ў нашай краіне. Праяў такіх няма і быць не можа, — заявіў У. Ягораў.

*Міністр унутраных спраў* Ю. Захаранка наогул адразу адзначыў, што ён на пасадзе міністра чалавек новы і пакуль што перад такой аўдыторыяй яму выступаць цяжка. Сказаць ён толькі можа, што злачыннасць у рэспубліцы расце не па днях, а па гадзінах...

На гэтым і закончылася прэс-канферэнцыя. Пачакаем наступнай.

**М. ЗАМСКІ**

# СВЯТА АРШАНСКАЙ ПЕРАМОГІ

8 верасня 1514 года на Крапівенскім полі пад Воршаю наша *беларускае шляхецкае войска на чале* з найвышэйшым гетманам Кастусём Астрожскім здабыло перамогу над утрая большым войскам маскоўскіх захопнікаў, упісаўшы залатымі літарамі гэты дзень у аналы еўрапейскай гісторыі.

З гэтай нагоды ў Воршы, Менску і іншых мясцінах Беларусі адбудуцца святочныя імпрэзы. Запрашаем на іх усіх, каму *дарагая гісторыя Бацькаўшчыны.*

Урачыстасці пачнуцца 3-га верасня 1994 года а 13-й гадзіне на старажытным замчышчы ў Воршы і працягнуцца на Крапівенскім полі. Тут будзе асвечаны помнік, выступяць навукоўцы, грамадскія дзеячы, майстры мастацтваў. Сустрэча гасцей — на чыгуначным вакзале Воршы з 10.30 да 12.00.

А 19-й гадзіне ў Аршанскім гарадскім парку — святочны канцэрт.

7 верасня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі — выстава ў экспазіцыі *«Слава твая, Беларусь!».*

У Менску 8 верасня з 18.30 з парку Янкі Купалы да пляца перад Опернbackward тэатрам пройдзе святочнае шэсце з удзелам рыцарскай конніцы. З 19.00 ля Опернага тэатра будзе святочны мітынг і вялікі канцэрт зорак беларускай эстрады.

8 верасня ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі — прэзентацыя карціны Генрыха Ціхановіча «Бітва пад Воршай 1514 года».

12 верасня ў музеі Максіма Багдановіча — адкрыццё мастацкай выставы «Гонар. Годнасць. Бацькаў*шчына».*

14 верасня ў Беларускім дзяржаўным універсітэце — навуковая сесія, прысвечаная Аршанскай бітве.

**Арганізацыйны камітэт**

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ГАРМОНІЯ «ЗНАКАСЛОЎЯ»

**Выстава маладых славацкіх мастакоў у Нацыянальным мастацкім музеі пад назвай «Аспект» літаральна ашаламіла каляровым буйствам і яшчэ не зусім звыклай нам шматзначнасцю. Бо галоўны прынцып прадстаўленага тут мастацтва — так званы «вальнадумны статут», які з неверагоднай хуткасцю ўвайшоў у апошні час і ў нашу выяўленчую культуру. «Усё можа станавіцца мастацтвам» — гэта тэза, што даўно пануе ў Еўропе, яскрава выявіла свае пазітыўныя і негатыўныя бакі ў гэтай выставе. Але галоўнае, што тут можна ўбачыць шлях развіцця мастацтва ў некалі закрытым грамадстве, якое на некалькі крокаў апярэдзіла нас у палітычнай вольнасці.**

**«Аспект» — не аб'яднанне мастакоў, а спроба прадставіць зрэз маладой творчай Славакіі. Тут няма завершанасці пракладзенага шляху, тут яўны пераход ад фігуратыўнай экспрэсіі першых год «свабоднага» жыцця да абагульнення форм, экзістэнцыяльнасці, інтымнасці, падтэкставага прачытання. Змест адыходзіць на другі план, а дыктаваць пачынае форма і матэрыял.**



*На здымку: Ёэзф БАУС. «Паклон V».*
*Фота А. МАЦЮША*

## «ФАНТАН-МАСТАЦТВА» ШРЫ ЧЫНМОЯ

**«Уся мая дзейнасць прысвечана адной мэце: міру ў свеце. Мая музыка, жывапіс і малюнкі, мае кнігі — усё гэта я прапаноўваю светуадзінству». Гэтыя словы гучаць на многіх лекцыях, канцэртах, дыскусіях духоўнага Настаўніка, філосафа, кампазітара, мастака і спартсмена, нашага сучасніка Шры Чынмоя.**

**З дванаццаці год бельгіец Шры Чынмой жыў у ашраме (духоўная абшчына), займаўся духоўнай практыкай. У 1964 г. ён пераехаў у Нью-Йорк. Галоўнай мэтай яго жыцця стала імкненне давесці людзям самы кароткі шлях да Ісціны — шлях сэрца. Шры Чынмой стаў вядомы на Захадзе як паэт, музыкант, жывапісец, спартсмен. Ён імправізуе на 130 розных музычных інструментах, аўтар 11 тысяч духоўных песень, кампазіцый для віяланчэлі, флейты, аргана, піяніна. З 1984 г. Шры Чынмой правёў больш за 200 бясплатных канцэртаў Міру ў Амерыцы, Азіі, Аўстраліі, Еўропе. Выйшла каля тысячы яго філасофскіх кніг, вершы раскрываюць цудоўны свет гармоніі і прыгажосці.**

**Індыйскі ёг і містык Шры Чынмой напісаў каля 200 тысяч карцін, якія ён называе «Джарна-Кала» альбо «Фантан-мастацтва». Гэты новы жанр пабудаваны на інтуітыўным, самаадвольным узаемадзеянні святла, колеру, рытму, тут пануюць не канкрэтныя формы, — адзінства, тут усё злітае і з'яднанае.**

**Выстава жывапісу Шры Чынмоя экспануецца зараз у Беларускім таварыстве культурных сувязяў.**

**Н. Ш.**

## УШАНАВАЛІ ПАЭТА-ЗЕМЛЯКА

**Пісьменніку-франтавіку Міколу Лук'янаву споўнілася 70 гадоў. У Магілёўскай абласной бібліятэцы прайшла вечарына, прысвечаная яго творчасці. Цёплыя словы юбіляру сказалі начальнік абласнога ўпраўлення культуры М. Дарашкоў, сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Аношкін, дэкан філалагічнага факультэта Магілёўскага педінстытута Я. Клімуць, а В. Карпенчанка, М. Емяльянаў, В. Кушняроў, І. Пехцераў, Л. Марцуль прачыталі вершы, прысвечаныя М. Лук'янаву.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

Перадрук

# ЯК МЫ ЛЕДЗЬ НЕ ЗНІКЛІ

## АДНА З ІДЭЙ ТОДАРА ЖЫЎКАВА

***Гэты артыкул нам даслаў наш чытач з Брэста Уладзімір Люкевіч. «Шаноўны сп.рэдактар, — пісаў ён. — Праглядваў свае старыя паперы і ўбачыў адзін цікавы артыкул. Першы візіт нашага прэзідэнта ў Маскву падаўся досыць блізкім да тае сітуацыі, якая апісваецца ў тым матэрыяле, які я Вам дасылаю. Можа, скарыстаеце з якой нагоды...»***

***Артыкул і нам падаўся надзвычай цікавым. І не толькі ў суадноснасці з тым знакамітым візітам у Маскву нашага прэзідэнта, а ўвогуле з сітуацыяй, у якой апынулася Беларусь і якая не-не ды ўсё яшчэ пагражае ёй стратай незалежнасці і нібыта аднаўленай праз столькі гадоў небыцця дзяржаўнасці.***

***Артыкул быў надрукаваны спачатку ў балгарскай газеце «Народна култура», а пасля, у скарочаным выглядзе, перадрукаваны ў «Литературной газете» (№ 5/5279) за 31 студзеня 1990 г.). Наш перадрук, натуральна, з «Литературки».***

Сафія, 31 ліпеня 1963 года. У зале імя Георгія Кіркова Партыйнага дома праходзіць пленум ЦК БКП. На трыбуне першы сакратар ЦК БКП і Старшыня Савета Міністраў НРБ Тодар Жыўкаў.

«Мы гэтае пытанне абмеркавалі ў Палітбюро, пярэчанняў няма, і я хачу, каб ім заняўся пленум сёння: звярнуцца з пісьмом у ЦК КПСС і да ўрада Савецкага Саюза, у якім паставіць пытанне, аргументаваць неабходнасць стварэння больш цесных сувязей паміж савецкай і нашай эканомікай з перспектывай іх зліцця. А ў далейшым і палітычнага зліцця. (Апладысменты). Румынскія таварышы, як і кітайскія таварышы, гавораць, каб паважаўся суверэнітэт. Суверэнітэт народ разумее як ёсць што есці і на што жыць. Вось гэта суверэнітэт — шчасце і дабрабыт народа. Мы працуем для народа, а не для формы».

У параўнанні з ідэямі, якія спавядалі балгары-патрыёты папярэднія два стагоддзі, такое разуменне пытання аб суверэнітэце выглядае, мякка кажучы, дзіўна. Але прамая сувязь «харч — суверэнітэт» — бясспрэчная тэарэтычная навінка.

А тэма харчу, напэўна, хвалявала досыць шырокае кола «буйных тэарэтыкаў», бо, па словах аднаго з такіх нашых «тэарэтыкаў», яна стала аб'ектам паглыбленых абмеркаванняў яшчэ ў гутарках на вышэйшым узроўні паміж дэлегацыямі КПСС і БКП у Маскве з 24 па 26 ліпеня 1963 года. Але там М. С. Хрушчоў быў дастаткова ўніклівы па пытанні аб магчымым зліцці:

«Вы хочаце, каб Балгарыя прыйшла да нас таму, што вы сёння маеце па 30 кілаграмаў мяса на душу насельніцтва, а мы маем па 45 кілаграмаў, і вы прыйдзеце да нас, каб есці 45 кілаграмаў!»

Але Т. Жыўкаў не можа лёгка адмовіцца ад любой сваёй ідэі. І ён не адмаўляецца: 4 снежня 1963 года праводзіцца спецыяльны пленум ЦК БКП, прысвечаны праблеме далейшага больш цеснага збліжэння і ў перспектыве зліцця Балгарыі з СССР».

Што дакладна гаварылася на гэтым пленуме, не ведаю, бо, як тлумачыць Ст. Георгіеў, дырэктар Цэнтральнага партыйнага архіва, матэрыялы пленума ў архіве ёсць, але не выдаюцца. Мой аповяд грунтуецца на звестках «з другіх рук», атрыманых з інфармацыі М. Грыгорава перад новым пленумам ЦК, скліканым 26 лютага 1964 года. Там сцвярджаецца, што двума месяцамі раней вылучыліся дзве асноўныя групы довадаў.

Унутрыпалітычныя: без Савецкага Саюза нельга ўявіць развіццё Балгарыі па шляху да камунізму, па якім КПСС пасля свайго XXII з'езда ўжо ідзе хуткімі крокамі; ёсць поўнае супадзенне марксісцка-ленінскіх поглядаў між дзвюма партыямі.

Знешнепалітычныя: Балгарыя дасць прыклад марксісцка-ленінскага вырашэння пытання аб узаемаадносінах паміж сацыялістычнымі краінамі (а па падаванні прыкладаў мы агульнапрызнаныя лідэры!).

І выснова: тав. Жыўкаў упэўнены, што балгарскі народ з радасцю прыме яго ідэю. Настолькі нават упэўнены, што вырашае наогул не пытацца ў гэтага народа — навошта марнаваць час.

Пэўна, пасля такіх важкіх довадаў членам ЦК КПБ было ўжо значна лягчэй засвоіць канцэпцыю тав. Т. Жыўкава аб тым, што такое суверэнітэт, бо ў лютым 1964 года наша партыйна-ўрадавая дэлегацыя адбыла ў Маскву з зусім канкрэтным намерам сагітаваць Хрушчова, што трэба зліцца. У параўнанні з ліпенем мінулага года аргументы былі куды больш пераканаўчыя.

Гэты візіт, тлумачыць Т. Жыўкаў Мікіту Сяргеевічу, мае

«гістарычнае значэнне, бо мы кладзём пачатак нашай сумеснай рабоце з савецкім кіраўніцтвам па ажыццяўленні той мэты, за якую дзесяцігоддзямі запар змагаліся і змагаюцца балгарскія камуністы і рабочы клас: каб наша краіна з'ядналася яшчэ мацней з Савецкім Саюзам, а ў перспектыве стала членам вялікай сям'і савецкіх народаў».

І каб не засталося ні кроплі сумненняў у тым, што «балгарскія камуністы і рабочы клас» змагаліся і змагаюцца менавіта і толькі за тое, каб Балгарыя стала 16-й савецкай рэспублікай, тав. Жыўкаў спяшаецца супакоіць свайго суразмоўніка:

«У нас зусім няма намеру сесці за савецкі стол на гатовенькае і... за кошт Савецкага Саюза павысіць наш жыццёвы ўзровень».

Але Мікіта Сяргеевіч, пэўна, не быў цвёрда ўпэўнены ў тым, што за гэтым сталом пры ўсім жаданні наўрад ці мог хто-небудзь павысіць свой жыццёвы ўзровень. І ўсё ж яго адказ — а ён фактычна адхіліў прапанову Жыўкава — быў пададзены ў мяккай форме:

«Мы сустракаемся і размаўляем з вамі так, быццам мы члены адной і той жа партыі, так мы вас успрымаем, — тлумачыць Хрушчоў. — ...КПСС вітае і падтрымлівае ідэю ўсё больш цеснага збліжэння і ў перспектыве зліцця».

Але, працягвае ён, на сённяшнім этапе лепш НРБ захаваць усе свае дзяржаўныя органы, захаваць і свой суверэнітэт.

Адказ засмуціў нашага буйнога тэарэтыка па суверэнітэтах. А што скажа мой народ — напэўна, спытаў ён — я ж абяцаў яго абрадаваць, прыемна здзівіць? І тут Мікіта Сяргеевіч не стрываў:

«Гэтае пытанне, не балгарскага народа, а знешнепалітычнае!»

Ну, калі так, зміруўся наш буйны тэарэтык, тады давайце пяройдзем ад тэорыі да практыкі? Але богу — богава, тэарэтыку — тэорыя, а пры пераходзе да практыкі тав. Жыўкаў меў звычай прадастаўляць іншым права цягаць каштаны з полымя. Гаворка ішла пра крэдыт у 400 мільёнаў рублёў — грошы немалыя па тым часе, да таго ж Балгарыя толькі што атрымала крэдыт у 300 мільёнаў рублёў.

І вось, як распавядае ўжо сам наш верны, буйны, агульнапрызнаны, дастойны і г. д., ён не толькі прадастаўляе другому мэнчыцца з выцыганьваннем крэдыту, а і абмяркоўвае з астатнімі членамі дэлегацыі пытанне,

«ці не пакінуць Станка Тодарава аднаго, калі ён будзе гаварыць, бо нам будзе сорамна яго слухаць».

Але ўсё-такі не выходзяць, не кідаюць таварыша ў бядзе. Атрымліваюць тое, што прасілі (праўда, не ў поўным аб'ёме, але ўсё ж), і, на развітанне, Мікіта Сяргеевіч падняўся:

«Дарагі Станка Тодараў...»

«Не дарагі, а залаты!» — паправіў яго Анастас Мікаян, што стаяў побач.

Наша дэлегацыя вяртаецца ў Балгарыю з грашыма (іншае пытанне, як яны былі скарыстаны), і, пэўна, па прапанове тав. Жыўкава, пленум ЦК БКП ад 25 лютага міралюбна вырашае, што зліццё

«не з'яўляецца непасрэднай задачай, а пытаннем будучыні. Жыццё пакажа, колькі спатрэбіцца часу для яго падрыхтоўкі і ажыццяўлення».

Вось так мы ледзь не зніклі як дзяржава, хай і не прававая, але ўсё ж паўнапраўная. Аднак жа застаецца пытанне: усур'ёз усё гэта было ці гэта чарговая махінацыя тав. Жыўкава? Бо ён — усім вядома — вельмі любіў жартаваць. Нават з сур'ёзнымі рэчамі. Асабліва калі жарты прыносілі прыбытак.

**P. S. Расказаная гісторыя грунтуецца цалкам на дакументах з Цэнтральнага партыйнага архіва (ф. 1, воп. 5, а. е. 584, а. е. 607).**

**Драгамір ДРАГАНАЎ**

## ДУХОЎНАГА СВЯТЛА ПОКЛІЧ

*(Пачатак на стар. 3)*

у Спаса-Ефрасінеўскім манастыры, а ў Музеі беларускага кнігадрукавання — «круглы стол» па праблемах нацыянальнага кнігавыдання, у Сафійскім саборы — канцэрт Полацкага камернага хору.

У нядзелю ж палачане і госці горада — у тым ліку жыхары Наваполацка — збяруцца, каб прадоўжыць мерапрыемствы. А яны запланаваны ў розных месцах. На плошчы Ф. Скарыны — гістарычна-мастацкае прадстаўленне і вялікі канцэрт з удзелам вядучых выканаўцаў і мастацкіх калектываў рэспублікі. У гарадскім парку — свята дзіцячай кнігі, а гэта — батлеечны спектакль паводле жыцця першаасветнікаў і першадрукароў Беларусі, забаўляльныя праграмы з удзелам гурта «Скамарохі», Тэатра масак, выступленні дзіцячых калектываў горада. Юныя чытачы прымуць удзел у стварэнні дабрачыннай дзіцячай бібліятэкі. На той жа плошчы Ф. Скарыны будзе працаваць друкарня, дзе жадаючыя атрымаюць асабістыя экслібрысы, святочныя пячаткі. Вечарам тысячы людзей збяруцца на стадыёне «Спартак» на гала-канцэрт...

У Мінску ж у нядзелю — фестываль беларускай прэсы (парк імя М. Горкага), а ў Нясвіжы — Рэспубліканскае свята паэзіі.

І ўсё гэта — шлях да духоўнасці, а значыць — працяг нацыянальнага Адраджэння, у якім — несумненна — уратаванне ўсіх нас. Як і выжыванне дзяржавы, нацыі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

***Як ужо не раз бывала, — дзеля нізкае мэты — зняважыць чалавека, абняславіць яго імя — выкарыстана «свабодная трыбуна» вядомай газеткі «Мы и время» (ад 12 жніўня г. г.). Тут змешчана «аб'ектыўнае даследаванне» жыцця і творчасці Васіля Быкава пад назвай «Без катурнаў» (адно з ключавых слоў марксісцка-ленінскай эстэтыкі!). Аўтар, Эдуард Ясны, ведае, што робіць...***

# НЕ КІЕМ, ДЫК ПАЛКАЮ...

## З НАГОДЫ АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ

У Яснага ўсё ясна, празрыста, адназначна: развянчаць імідж Васіля Быкава, гэтага ўяўнага «апостола творческого люду», «великого страдальца и мученика», «непреклонного борца», «талантливого новатора» (усё ў іранічным плане)! Уджаліць прыхільнікаў яго таленту, не кажучы ўжо пра «верных зброеносцаў», «апалагетаў пісьменніка», у самае балючае месца! і хоць джала несмяртэльнае, тым не менш...

Тым не менш, як не згадзіцца з асобнымі назіраннямі «незалежнага публіцыста»!

У сваім імкненні стварыць куміра мы сапраўды парушаем першую запаведзь і яўна злоўжываем моцнымі выразамі. Тут мы падобныя да «бальшавіцкіх агітатараў» ленінскага гарту, якія самазакахана надзялялі КПСС самымі высокімі эпітэтамі. Зрэшты, імкненне гэтае можна зразумець, бо ў ім выказалася жаданне абараніць з дапамогай слова самае дарагое, што ў нас ёсць, засталося. Ну, але дзякуй яснаму пану Эдуарду за навуку!

Дзякуй і за напамінак: малая актыўнасць чытача беларускай кнігі — гэта факт нашага жыцця. Але можна бачыць прычыны ў гісторыі народа, у сацыялогіі паводзін, у псіхалогіі масавай свядомасці, а можна шукаць іх... у падзенні рэйтынгу пісьменніка, якое зларадуючыся фіксуе аўтар. Калі лічыць наклады кніг за адзнаку папулярнасці, то «сумленнем нацыі» трэба называць сёння Чэйза і Флемінга, Сувестра і Алена, Кleланда і Халандзера. Тым часам нават А. Крысці і Ж. Сімянон у добрым беларускім перакладзе надоўгу ляжаць на паліцах крамаў і кіёскаў. Што ж да сумарнага тыражу быкаўскіх твораў у некалькі мільёнаў экземпляраў, набранага некалі «ў маштабе ўсёй савецкай краіны», то львіную долю яго склалі пераклады на «мову міжнацыянальных сувязей», чаго не жадае заўважаць Э. Ясны.

Наогул жа ў манеры «незалежнага публіцыста» — адштурхоўвацца ад дакладнага факта і ў выніку пэўных маніпуляцый, перастаўляць усё з ног на галаў, падводзіць да высноў, якія інакш як хлуснёй нельга назваць. Людзі ягонага кшталту, адносячыся варожа да ўсякае дэмакратыі і галоснасці, асабліва ахвотна выкарыстоўваюць усемагчымыя свабоды, якія гэтая дэмакратыя дае кожнаму грамадзяніну. Артыкул ажно стракаціць лексікай свабоднага свету, у якім нядаўнія «правыя» сталі «левымі», «ангажаваныя» — «незалежнымі», «партнаменклатуршчыкі» — «народалюбцамі» і г. д. Аўтар добра засвоіў ленінскія ўрокі аб ролі «партыйнага друку» ў змаганні за ўладу. У дадзеным выпадку, у змаганні за ўладу над людскімі розумамі і сэрцамі, дзе, на погляд Э. Яснага, задужа вялікае месца займае постаць Васіля Быкава. Такое вялікае, што нават наяўная тэндэнцыя да пераацэнкі яго рэнамэ мала суцяшае. Хоць бы таму, што ўзнікла яна ў нетрах ідэалагічнай абслугі кебічаўскай «партыі ўлады», а не ў шэрагах беларускага чытача.

І зноў у пачатку «выкрыцця» — абсалютная ісціна: «Бясспрэчна, — піша Э. Ясны, — былы франтавік сарваў з вайны загераізаваны, прапагандысцкі, саўінформбюроўскі мундзір. Яго вайна — гэта страшэнны гвалт над чалавекам, рэанімацыя рудыментарных інстынктаў... Быкаў — аднадумца Талстога: вайна ёсць «агідная дзеля чалавечага розуму і ўсяе чалавечае прыроды падзея». А далей пачынаецца... аматарскае літаратуразнаўства. Хлопчык з натоўпу, ну, той самы, зіркаты і дасужы, заўважыў раптам тое, чаго за трыццаць гадоў не хацелі заўважаць дзесяткі быкавазнаўцаў. Выявілася, што так званы наватар Быкаў — ніякі не наватар, а ўсяго толькі варты жалю пераймальнік Рэмарка, які поруч з Хемінгуэем трыумфальна крочыў у канцы 50-х гадоў па СССР (акурат тады, калі пачыналася слава беларускага празаіка). Ён, паводле слоў Э. Яснага, па-шкалярску, жыўцом браў з сусветна вядомых твораў Рэмарка цэлыя эпізоды, у тым ліку і славуты эпізод, калі ў варонцы апынаюцца сам-насам варожыя салдаты, якія ў Быкава «думаюць і робяць па-рэмаркаўску». Аргументацыя, на погляд Э. Яснага, забойчая: быкаўскія творы з названым эпізодам выйшлі ў свет значна пазней за славуты раман Рэмарка «На Заходнім фронце без змен» (1929), адкуль ён і быў «запазычаны», адно што «схаваны ў «мясцовы» матэрыял, у «другую» вайну». Мог, вядома, беларускі празаік «запазычыць» і ў свайго любімага В. Някрасава, імя якога ўмудраўся называць публічна нават тады, калі яно было забаронена, але ўсю «рэмаркаўшчыну» з аповесці «У акопах Сталінграда» своечасова, яшчэ ў 1946 годзе, калі «трыумфальнага шэсця» Рэмарка не было, «выграб» патрабавальны А. Твардоўскі. А мог «запазычыць» і ў нашага беларускага класіка М. Гарэцкага, аўтара апавядання «Рускі» (1915), дзе ў падобнай сітуацыі сутыкаюцца героі і паўтараюцца адны і тыя ж дэталі (пісьмо). Вось вам і «мясцовы матэрыял»! Праўда, і Рэмарк мог незнарок «збондзіць» гэты самы эпізод у Гарэцкага: усё-ткі ў Гарэцкага ён апісаны раней! Ох, ужо гэта наша павышаная ўвага да таго, хто першы, а хто апошні, хто «адкрыў», а хто «запазычыў»! А, можа, усё было і прасцей, і ясней, як у Э. Яснага? І Гарэцкі, і Рэмарк, і Быкаў, кожны ў свой час, чыталі «Вайну і мір» Л. Талстога, у прыватнасці, радкі, дзе апісваецца, як наляцелі ў гарачцы бою адно на аднаго рускі і француз і як, зірнуўшы твар у твар, вочы ў вочы, жахнуўшыся свае нялюдскасці, хутчэй разбегліся. Чыталі і вучыліся выяўляць у такіх эпізодах той самы «філасофска-псіхалагічны змест», які нібыта нетворча пераняў у Рэмарка Быкаў. Як кажуць, хадзілі ў розныя класы адной і той жа яснапалянскай школы.

Але «метода» Э. Яснага такая, што, нападаючы на Быкава, ён цаляе ў другія мішэні, трымае ў полі зроку і іншыя пісьменніцкія імёны, цэлы напрамак літаратурнай і грамадскай думкі 60—80-х гадоў, тых самых «шасцідзесятнікаў», якія столькі год таранілі цытадэль камуністычнага таталітарызму і ўрэшце дамагліся яе падзення. А ў гэтай жа цытадэлі, у самым яе асяродку, так утульна пачуваліся ў свой час усе гэтыя Ясныя ды Прамяністыя: тыражы кніг у «благаславёныя» часіны, пра якія так настальгічна ўзгадвае аўтар артыкула, сапраўды былі гарантаваныя, а зорны дождж усемагчымых узнагарод быў такі шчодры, што ставала і на тое, каб падзяліцца з іншымі!

Вядома, дзяліліся, але не адразу. Спачатку выпрабоўвалі «на злом»: ці такі ўжо ён «непреклонный», гэты самы змагар з сталінізмам Быкаў? І сам Быкаў, і іншыя літаратары ўспрымалі падобныя спробы як праследаванне за іншадумства, як парушэнне дэкляраваных усімі савецкімі канстытуцыямі свабод. Так, а не інакш, успрымаюцца і ацэньваюцца гэтыя спробы і сёння. Аднак людзі, якія ўсё сваё свядомае жыццё адседзелі ў бяспецы за тоўстымі, складзенымі з некалькіх пластоў ідэалагічнай хлусні сценамі камуністычнай цытадэлі, паранейшаму знаходзяцца ва ўладзе зрокавых аберацый. Якія, усклікае Э. Ясны, праследы? Які яшчэ цэнзурны прыгнёт? Пра якую-такую «кампанію супроць Быкава», развязаную ў 60—70-я гады ЦК і КДБ, гаворка? Знаёмая да нуды песня. Адгарніце газету на адну старонку і прачытаеце, што ніякага бальшавіцкага генацыду ў Курапатах не было, а калі і быў, што толькі нацысцкі...

А што ж было? Спачатку, у лютым 1966 года, — рэцэнзія Я. Герцовіча ў «Звяздзе». «Яўна некарэктная», — заўважае Э. Ясны. Адыёзная постаць гэтага крытыка ў тыя часы мала кім успрымалася ўсур'ёз, а яго выступленне ў друку і сапраўды можна было б расцаніць як спробу выказаць уласную думку на творчасць Быкава. Але і Пісарава, пагромшчыка Пушкіна, на якога спасылаецца аўтар (вось бы пры жыцці Герцовіча хто-небудзь «адваліў» яму гэткі камплімент у выглядзе аналогіі!), сучасныя «разумныя пушкінаведы» асэнсоўваюць не як «бліскучага інтэлектуала», а як аднаго з тых, хто старанна пракладаў дарогу нігілізму і яго спадарожніку — рэвалюцыйнаму тэрору, які скончыўся скідваннем Пушкіна «з парахода сучаснасці» і знішчэннем мільёнаў нявінных людзей. У пачатку 1966 года «разумныя быкавазнаўцы», і не толькі яны адны, адчулі, што рэцэнзія Я. Герцовіча — гэта «пробны камень» палітычных сіл, якія стаялі за крытыкам: невыпадкова яна з'явілася ў «органе ЦК». Падзеі пацвердзілі гэтыя прадчуванні: неўзабаве ў «Советской Белоруссии» быў апублікаваны рэдакцыйны артыкул пад недвухсэнсоўнай назвай «Насуперак праўдзе жыцця». Творчая інтэлігенцыя, сапраўды добра ведаючы «кухню вярхоў», памятаючы пра нядаўні гістарычны вопыт, чакала толькі горшага: раз артыкул рэдакцыйны — значыць за ім стаіць ЦК КПБ! А за ЦК — КДБ! А за КДБ...

Э. Ясны іранізуе: «няўклюднае апаратнанаменклатурнае пагладжванне супроць шэрсці», «крытычная драпінка ў газетным артыкульчыку», «бяскрыўднае часопіснае выступленне»... Магчыма і бяскрыўднае, калі яно цябе асабіста не закране, а, можа, нават і цешыць раўнівае самалюбства, увогуле ўласцівае літаратурнаму асяродку. І ўжо, несумненна, бяскрыўднае, калі параўноўваць гэтае выступленне з тагачаснымі маскоўскімі літаратурнымі баямі, а тым больш з сённяшняй расцуглянай слоўнай вайной, якая падаграецца не толькі вымогамі палітычнай барацьбы, але і неабходнасцю быць «прытчаю ва языцах», мець чытацкі попыт, тыраж. Ну, хіба не смешна было гэта колішняе выбачальнае «разам з тым», «але», «аднак», гэтыя «сцёртыя стэрэатыпныя шыпы»: «Мастак слова павінен пастаянна памятаць пра свой грамадзянскі абавязак, пра адказнасць перад народам...» А ці можна ўсур'ёз інтэрпрэтаваць «як сігнал да праследу таленавітага пісьменніка» вось гэтыя радкі, няхай сабе і надрукаваныя ў газеце «Правда»: «Аповесць «Мёртвым не баліць» — няўдача аўтара. Пра гэта трэба сказаць прама і бескампрамісна. Гэта няўдача — вынік ідэйна-эстэтычных пралікаў пісьменніка. Адзначаючы гэта, мы далёкія ад таго, каб кідаць цень на ўсю творчасць таленавітага мастака, але мы рашуча супроць яго аднабаковай і шмат у чым неапраўданай канцэпцыі часу і грамадства, што выразна праступае ў аповесці. Няслушнасць яе відавочная». Ну, выказаў У. Сяўрук, аўтар гэтых радкоў, уласнае меркаванне! Дык гэта ж, усклікае Э. Ясны, «асабістая справа кожнага чытача, кожнага чалавека»! Так, на самай справе «асабістая», калі б тое адбывалася ў часы Чэхава, якога ўзгадвае аўтар. Але ўсё здарылася ў векапомныя часіны «абвастрэння ідэалагічнай барацьбы», калі састарэлыя маразматыкі-сталіністы вырашылі даць апошні бой дэмакратыі. На літаратурным адрэзку ідэалагічнага фронту ў іх былі свае заўзятыя памочнікі...



*Мал. Л. РАЗЛАДАВА*

Вось няпоўны пералік «водгукаў» на артыкул У. Сеўрука, апублікаваных у саюзнай і рэспубліканскай прэсе: «Творчыя заваёвы і страты», «Героі ці ахвяры лёсу?», «Калі адстаюць ад часу», «Талент — гэта адказнасць», «Навошта так абражаць салдацкую памяць», «Дзіўная гісторыя пра дзіўную роту», «Прыкры твор», «Адкрыццё новага або паўтарэнне старога», «Псіхалогія бою і этыка «чорных пятак», «Дык што ж адбылося каля Круглянскага моста?», «Пра сапраўднае і лжывае», «Логіка жыцця і эмоцыі»... Былі сярод гэтых «водгукаў» такія, якія можна назваць «асабістай справай» крытыкаў або чытачоў, а былі і іншыя, у якіх адкрыта аб'яўлялася вайна тым, хто «адстае ад часу». У аўтарстве гэтых «іншых» ніхто не сумняваўся, хоць пад адпаведным «матэрыялам» і значылася безаблічнае: «Рэдкалегія». Ідэалагічны штаб ЦК КПСС, у якім не апошнюю ролю іграў і У. Сяўрук як спецыяліст па творчасці Быкава, чула пеленгаваў сігналы, што ішлі з месцаў, з той самай «мілай», «памяркоўнай», паводле слоў Э. Яснага, правінцыі, перапалоханай не на жарты аб'яўленым літаратурным і палітычным тэрорам. А правінцыя, у сваю чаргу, вокамгненна рэагавала на павевы ў верхніх эшалонах улады. Як звычайна, неадэкватна і гіпербалізавана: «нейкія нягоднікі пабілі вокны ў кватэры гнанага пісьменніка». Вось «мілая падрабязнасць» правінцыйнага жыцця 60—70-х гадоў! Дадамо: нейкія нягоднікі адкрыта цкавалі дзяцей Васіля Быкава, школьнікаў. Званілі па тэлефоне і абражалі пісьменніка. Пісалі падкідныя лісты. Аднойчы ўвечары «нейкая» машына спынілася насупраць акна кватэры, якая знаходзілася на першым паверсе, і праз хвіліну пісьменніку стала блага. Урачы «хуткай дапамогі» не маглі паставіць дыягназ, пакуль ім не растлумачыў усё шэры суб'ект у цывільным, што адразу ж аб'явіўся ў суседнім з прыёмным пакоі абласной бальніцы. Пачаліся выклікі ў «адпаведныя органы»... Дык былі ці не праследы, ясны пане Эдуардзе?

Пасля таго, як не ўдалося духоўна зламаць пісьменніка ў адкрытай і патаемнай псіхалагічнай вайне, суслаўска-андропаўскія інквізітары распачалі ажыццяўленне выпрабаванага неаднойчы на многіх плана, сэнс якога можна звесці да вядомага выразу: не кіем, дык палкаю — адной паганялкаю. Адна з задуманых правакацый была паспяховай: у час, калі В. Быкаў знаходзіўся ў Оршы, яму пазванілі з Масквы і спыталі, ці згодзен ён паставіць свой подпіс пад калектыўным пісьмом пісьменнікаў, у якім асуджаўся А. Салжаніцын? В. Быкаў, вядома, адмовіўся. А на наступны дзень убачыў сваё прозвішча пад згаданым пісьмом у «Правде». Кажуць, сёй-той з сучасных «класікаў» быў пакрыўдзіўся на ўладу: чаму з усіх беларускіх пісьменнікаў абралі толькі дваіх — В. Быкава і І. Мележа? Ведаў, што такі подпіс адкрываў шырокі шлях да ўзнагарод, прывілей, прыжыццёвай славы... Зрэшты, старадаўні метад «бізуна і перніка» ўражліва апісаны Э. Ясным: «Праследуюць і тут жа ўзнагароджваюць. Душаць і тут жа прэміруюць. Топчуць і тут жа ўзвышаюць. Заціраюць і тут жа абіраюць у вышэйшы дзяржаўны орган рэспублікі. Ладзяць перашкоды і тут жа асыпаюць казачнымі літаратурнымі прывілеямі...» Усё гэта В. Быкаў зведаў у поўнай меры на самім сабе ў 70-я гады, калі брэжнеўскі рэжым задыхаўся ў старэчай немачы і намагаўся атруціць смяротнымі міязмамі ўсё жывое, здаровае, творчае. Літчыноўнікі ўжо прадчувалі салодкі міг, калі вось-вось прыручаць гэтага свавольнага пісьменніка, як прыручылі многіх з тых, з кім ён пачынаў разам. А Быкаў у гэты час пісаў «Знак бяды»... А Быкаў стаў адным з ініцыятараў утварэння Беларускага народнага фронту, у адраджэнскай дзейнасці якога не расчараваўся да апошніх дзён...

У адным, здаецца, памыліўся Васіль Уладзіміравіч — паверыў, што з дапамогай дабрыні можна паставіць на шлях ісціны і самага ўкаранелага ў камунізме індывіда. Не ведаў, што гэты індывід пільна сочыць за кожным яго крокам і пакрысе вядзе сваё дасье на яго, адзначаючы ўсе ўзлёты і падзенні, крытычныя «шышкі» і бліскучыя бразготкі ў выглядзе «ўрадавых узнагарод», заносячы ў асобны рэестр імёны ўсіх, хто так ці інакш выказваў свае сімпатыі да пісьменніка... Навошта? Ды так, на ўсялякі выпадак! Глядзіш, а ўсё павернецца назад, у мінулае, калі дрэвы былі высокімі, а тыражы кніг — вялікімі. Кінуцца разумныя людзі шукаць дадзеныя на гэтых «прарабаў» і «архітэктараў», а ўсе гэтыя дадзеныя цэленькія, гатовенькія да спажытку на карысць паспалітаму люду ў руках Эдуарда Яснага. І адрасочак ёсць: г. Мінск, вул. Маскоўская, 6. Рэдакцыя незалежнай левай газеты «Мы и время». І я, услед за аўтарам «бесстаронняга даследавання», не зларадуюся. Я канстатую. Блох сапраўды лёгка сеяць, але цяжка іх потым лавіць.

**Міхась ТЫЧЫНА**

Проза

Анатоль КРЭЙДЗІЧ



# МУРАШНІК

АПАВЯДАННЕ

*«Як людзі... як мой народ».*
*Алесь НАВАРЫЧ.*

Чалавек ужо і не думаў і не гадаў, што мурашнік, які вырас ля самай лясной сцяжыны, выжыве, адродзіцца. Некалі ён быў такі маленькі, што не закрываў нават напаўструхлага пянька. Але паступова рудая варушлівая горка большала, спачатку яна падабрала пад сябе пянёк, а пасля пачала няспешна прыцярушваць збіты на ток падзол — светла-шэрую стужку між травы і ігліцы.

Па сцежцы людзі хадзілі не часта, хоць і бывалі дні, калі сноўдалі адно за адным: то пехатою, то на роварах, а то і на матацыклах.

Тым часам мурашнік рос. Дробненькія, але дужыя і ўпартыя стварэнні з усяго навакolля безупынна сцягвалі сюды патрэбны будаўнічы матэрыял, і да восені горка заняла ўсю сцяжыну.

— Дурніцы, — скрушна схіліў галаву чалавек у форменнай апратцы з дубовымі лісткамі на пятліцах. — Што ж вы, гіцлі, лепшага месца не знайшлі, га? Чорт матацыклам як шмаргане, ад вашага дома адно ашмоцце і застанецца.

Чалавек прыпаў на адно калена, схіліўся:

— Ну, чаго ты тузаешся, шпана малая? А бач жа, якое ўпартае. Ледзь здужае, а пнецца. Дзіва, такое беравяніўшка. Каб у цябе хто спытаў — для чаго пнешся? Для жыцця, можа? Не, скажу я вам, не для жыцця, а каб зараза якая ўсё гэта параскідала і прабачэння не папрасіла. Папомніце маё слова.

Мураш трымаў перад сабою разоў у пяць большую за яго трэсачку, тузаўся то ў адзін, то ў другі бок, паварочваўся разам з грузам, упіраўся то задам, то перадам, але, здавалася, не пасоўваўся ні на драбок. Зрэшты, такое ўражанне было падманлівым — праз хвіліну чалавек зноў глядзеў сабе пад ногі, туды, дзе толькі што поркаўся няшчасны мураш, і не бачыў яго. Светлая трэсачка варушылася каля самага падножка рудога конуса.

— Бач, ледзь варушацца, а работа ідзе хутка. — Мужчына неяк спачувальна ці то вінавата пасміхнуўся і падаўся прэч.

Што ні дзень — мурашнік большаў. Ён поўнасцю перагарадзіў сцежку. Ва ўсе бакі ад мурашніка працягнуліся крывымі, нібы карані дрэў, стужачкамі прыкметныя здалёк мурашыныя сцяжыны. А людзі пачалі вытоптваць па адным з яго бакоў дугу, змяняць форму свайго ляснога тратуара. Пройдуцца, абмінаючы перашкоду, прыгнуць траву, уціснуць у зямлю якую ламачыну, адфутболяць да бліжэйшай хвоі сухую, растапыраную, як разадлаваны індык, шышку, спатыкнуцца аб схаваны ў яшчэ зусім слаба вытаптанай траве тоўсты смаляны корань, тупнуць нагой, страсаючы мураша — і абходны шлях пазначаны. А тыдзень-другі зацішку зноў зацягвае дугу зялёна-рудым дываном.

Мурашоў, праўда, нічога, акром сваёй справы, не хвалявала — ні людзі, ні іх сцежка, ні што б там ні было. Яны, нібы заведзеныя, цягнулі і цягнулі да горкі-хаты ўсялякае лясное смецце ды пажыткі — зялёных вусеняў, чорных жучкоў, белых глустых лічынак...

Аднаго разу на мурашоў неспадзеўкі абрушылася бяда. Яна мела выгляд вузкіх веласіпедных колаў з чорнымі пакрышкамі і бліскучымі нікеляванымі абадамі і гарласных няўрымслівых падшыванцаў. Першы — рабы ўскудлачаны хлопец — згледзеў наперадзе перашкоду і набраў разгон, каб не завязнуць у рыхлай горцы. Паляцелі пырскі лёгкага друзу. След у след за сваім нячэсаным атаманам праляцеў, тузаючы педалі, каб затармазіць, другі. Трэці імчаў крыху воддаль. Ён паспеў зарыентавацца, прытармазіў і абагнуў разрэзанае на дзве амаль роўныя паловы жытло мурашоў. Чацвёртым ехала малое і замурзанае. Яно вісела пад рамаю і неяк ухітралася круціць босымі, чорнымі парэпанымі нагамі скрыўленыя педалі. Адолець мурашнік яно не здужала і мякка апусцілася на яго левую палову. Заенчыла. Грабянула задубелымі падэшвамі тое, што па крупіцах, гадамі збіралі маленькія будаўнікі, дый саміх будаўнікоў таксама, адскочыла, абабіла падгорнутыя да лытак калашыны, пачало пад смех старэйшых выцягваць ровар, руйнуючы жалезным раменем правую палову конуса.

Калі б нехта з хлопцаў у гэты час пільна зірнуў на дол, то ўгледзеў бы, што параскіданыя мурашы не раздумвалі, што рабіць пасля вялікай катастрофы, а хапаліся за бліжэйшы кавалачак галінкі ці то за якую трэсачку і, нібыта нічога не здарылася, цягнулі да горкі. Быццам ніхто і не наязджаў на іх жытло, ніхто іх не раскідваў.

— А божачкі... Ну, што я вам казаў. Ай што нарабілі, свалата праклятая. Казаў жа, казаў я вам — не будзе вам тут жыцця. — Стары з дубовымі лісткамі на пятліцах ці то радаваўся, што яго папярэджанне было разумнае, трапнае, ці бедаваў. Але тое, што спачуваў мурашам — гэта несумненна. Ён схадзіў па сякеру, высек і затачыў чатыры бярозавыя слупкі, убіў іх вакол мурашніка, пасля абкарыўшы восем танклявых альховых жардзінак, прыбіў да слупоў. Агародка атрымалася прыгожая — бела-аранжавая.

Прайшоў час. Той самы чалавек, толькі пастарэлы і ў цывільнай апратцы, наведаўся да мурашніка і як угледзеў яго — знямеў. Больш ад здзіўлення, што жытло ўпартых цягавітых насякомых не толькі вярнула сабе правільную форму конуса, але і прыкметна пабольшала і сваёю вяршыняю даставала яму да пояса, чым ад абурэння, што агародка аказалася паламанай, што канец адной з жэрдак хаваецца ў мурашніку. Памяркаваўшы, што веласіпеду жэрдку не адолець, а аўтамабілі тут не ездзяць, стары зрабіў вывад: «На матацыкле, паршывец, улез». Ён ужо намерыўся выцягнуць абломкі, ды спахапіўся: ці варта зноў варушыць адбудаваную другім разам хату? Пакінуў як ёсць. А перад тым, як пайсці, сказаў:

— Мусібыць, сам Бог даў вам тут месца для жыцця, і ён жа наказаў вам пакутаваць. Значыць, я тут ніякім не магу быць ні памочнікам, ні дарадцам. Усё лёс. Усё лёс, дарагія мае...

Пасля гэтага ў старога было яшчэ дзве сустрэчы з мурашнікам. Першая — праз год. Тады чалавек праслязіўся, бо ўбачыў, што горка зноў здарова пацярпела. На гэты раз сур'ёзна — не дакажа ні ровар, ні матацыкл. Хату мурашоў прыціснуў да зямлі шырокім колам трактар, пакінуўшы на зямлі след пратэктара. Зніклі і слупкі, і жэрдкі. Адно валяліся наўкол рэшткі таго, што нядаўна называлася агародкаю. Стары сабраў іх і кінуў пад хвою. Пасля моўчкі пастаяў, павярнуўся, цяжка ўздыхаючы, і паплёўся па сцежцы...

Другая, апошняя сустрэча чалавека, што насіў некалі апратку з дубовымі лісткамі на пятліцах, з мурашамі адбылася незадоўга да ягонай смерці. Адзіны слупок, які ўцалеў ад наезду трактара, цяпер ледзь выбыркаўся з горкі-хаты. Яна зноўку мела правільную форму конуса і вырасла настолькі, што вяршыня раўнялася з плячыма чалавека. А дуга, што некалі то паяўлялася, то знікала па адным з бакоў горкі, цяпер зліласа са сцежкаю, быццам бы яна ўсё жыццё была скрыўленаю ў гэтым месцы.

Чалавеку падалося, што знішчыць або хоць бы спыніць мурашоў наогул не пад сілу аніякай трасы. Стары падумаў, што мурашы сваёю абыякавасцю і да зла, і да дабра, якія чыніць ім чалавек, дэманструюць сваю пагарду да яго. І ён ударыў сваім пружыністым важкім кіем, які змайстраваў сабе са ствала старога ядлоўца, па маленькіх ганарлівых, што мітусіліся пад нагамі. Мурашы, патузаліся, паварушылі лапкамі, перавярнуліся, знайшлі кожны свой груз і, нібыта нічога не здарылася, заспяшаліся да свайго жытла.

---

З паэтычнай пошты

Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК

## ТРЫ ЖАДАННІ

У век прэзентацый бяздумных,
Рэклам смехатворных,
Грызні прэтэндэнтаў у прэзідэнты,
Разгулу цэн і мафіёзі,
Усясільнага бартэру і бяссільнай
міліцыі,
У век, калі табе пад шэсцьдзесят,
Хочацца чытаць-перачытваць
Шэсцьдзесят шосты санет Шэкспіра.
І хочацца памерці
Не ў бальнічцы участковай,
Куды цябе — без парашкоў і уколаў! —
Спіхнуць-затарачаць «разумныя»
родзічы,
А памерці ад раны скразной у сэрцы,
Якую табе зрабілі з незарэгістраванай
зброі,
Калі ты ахоўваў гуманітарную дапамогу
На перагоне Хойнікі-Брагін.
І яшчэ хочацца, каб над маёю труною,
Абвітай восеньскаю дзеразою,
Не гугнявілі папы пышнавалосыя,
Не пышнасловілі ворагі
перафарбаваныя,
А сказаў харошае развітальнае слова
Мой даўні сябрук Рыгор Барадулін,
Якога не бачыў
Гадоў, можа, дзвесце.
*Рэчыцкі раён, в. Ведрыч.*

Серафіма БЕСТАВА

●

Калі б не Чарнобыль кляты,
Наш лес, на грыбы багаты,
Дарыў бы дарункі лета,
Дарыў бы нам шчыра і светла.

Калі б не Чарнобыль кляты,
Што столькі нам бед прыбярог,
Выходзілі б замуж дзяўчаты,
Не знаўшы за заўтра трывог.

Калі б не Чарнобыль кляты
З атрутай вятроў і завей,
Былі б весялей нашы святы,
І будні былі б ласкавей.

●

Як жа мы да гэтага дайшлі,
Мы цяпер, нібы ў падвесным стане.
Адарваліся ад неба, а зямлі
Не дасталі. І калі яшчэ дастанем.

Мы на крок здаецца ад вайны.
Толькі б ад эмоцый устрымацца.
Хто ад Бога, хто ад сатаны,
Толькі б не пайшоў бы брат на брацца.

●

Вецер сціх і не шуміць, не вее,
Слухаю начную цішыню.
Думак шмат. Адно сплылі надзеі,
А ці плацім дабрынёй за дабрыню.

Зерне міласэрнасці ці сеем?
Скуль чакаць, што запраменяць дні?
Скуль чакаць, што свет наш пацяплее?
І ва ўсіх грахах каго вініць?
*г. Орша.*

Мікола АНТАНОЎСКІ

## ПЕРАСЦЯРОГА

...І ўсё ж жыве ў душы перасцярога,
Як адзіночка-воўк у гушчары, —
А можа, сапраўды усё ад Бога:
І я,
І здзек мой,
І мае сябры,
І вераснога палясоўя чары,
І словы добрыя, як блізнюкі,
Над дамавінай ката і ахвяры,
І без бацькоўскай ласкі байструкі,
І збітыя калені да малення,
І вечнага калосся маладосць,
І грэшныя усе мае сумнені
У тым, што Ён, напэўна, недзе ёсць?..

Да смерці самай
Жыць з перасцярогай,
Нібы ўцякаць ад дум пустых гайні, —
У трудны час
На помач клікаць Бога,
Хвалу яму казаць
У шчасця дні.
*г. Пружаны.*

Міхась УКРУЖАНСКІ

## ПАЧУЕМ СЯБЕ БЕЛАРУСАМІ

Хто сёння падумае пра Беларусь,
Калі не падумаем самі?
Мікіта і Тэкля, Аўхім і Пятрусь,
Падумайце прад абразамі!..

Маліцвай сагрэўшы душу для людзей
Да працы наблізіліся з Богам.
Падумаем зноў (як закоціцца дзень),
Ці многа зрабілі путнога...

А што — як не думаць, хто мы на зямлі,
Куды нашы ўзнімуцца душы
І што мы жадалі, але не ўзялі,
І хто нас так лёгка аджаў

І гэтак бязбожна падумаў за нас,
Адчуўшы сваю перамогу, —
Тады ўжо, Мікіта, Язэп, Апанас,
Мы будзем няўгодныя Богу.

## ПА ВАШЫХ МАЛІТВАХ

Памаліся за мяне, мой брат:
Нешта скрушна на душы стагрэшнай.
Па тваіх малітвах акурат
Будзе перад небам ёй уцешна.

Памаліся за мяне, сястра, —
Я пачую голас міласэрны.
І пальецца з-пад майго пяра
Светлае душы радочак верны.

Памалюся й я за ўсіх за вас.
Цёплую малітву Бог пачуе.
Ды не пабяднее той запас
Дабрыні, што ў кожнага начуе.
*г. Магілёў*

Алесь ЛІСІЦКІ

## ТРЫЯЛЕТЫ

●

Вяз каля бацькавай хаты
ссох, на ім мала галля.
Часта прыгадваю я
вяз каля бацькавай хаты.
Дрэўцаў падрослых сям'я
дружна раскінула шаты.
Вяз каля бацькавай хаты
ссох, на ім мала галля.

●

Размерна ўзмахваю касою —
узлётна сцелецца трава.
Не хмуру стомлена брыва —
размерна ўзмахваю касою.
Хіба ж не хочацца спяваць
таму, хто ўмыецца расою?..
Размерна ўзмахваю касою —
узлётна сцелецца трава.

●

Мяне вандроўныя дарогі
вядуць да Убарці — дамоў.
Стамляюць летам і зімой
мяне вандроўныя дарогі,
калі не чую перамоў
душы з маленствам басаногім.
Мяне вандроўныя дарогі
вядуць да Убарці — дамоў.

●

Удзірванеў падворак дзедаў,
няма ля студні жураўля.
Стаю пад дубам моўчкі я:
удзірванеў падворак дзедаў.
О, як збаліць жа мне пасля
маўклівасць тая, каб я ведаў?!.
Удзірванеў падворак дзедаў,
няма ля студні жураўля.
*г. Жыткавічы.*

## ... І АЎТАР ЗА ПУЛЬТАМ

**У канцэртнай зале Магілёўскага музычнага вучылішча сёлета адбыўся аўтарскі канцэрт кампазітара Генадзя Ермачэнкава. Гэты ўжо вядомы сталы музыкант, дацэнт кафедры аркестравага дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі, стаў нядаўна яшчэ й выпускніком кампазітарскага аддзялення акадэміі (клас Я. Глебава).**

**Творчы багаж Г. Ермачэнкава дастаткова вялікі. Ягоная музыка гучыць даўно, выклікаючы слухацкую цікавасць. Ён спрабаваў сябе ў сімфанічнай, харавой, вакальна-сімфанічнай музыцы, стварыў камерна-інструментальныя ансамблі, п'есы для розных інструментаў і народнага аркестра. Вызначылася схільнасць кампазітара да вакальна-сімфанічных кампазіцый. Сярод яго свежых опусаў — вакальна-сімфанічная паэма «Зямля дзядоў», араторыя «Явар і каліна» паводле паэмы У. Караткевіча, запісаная нядаўна на Беларускім радыё.**

**Музыка Г. Ермачэнкава адрозніваецца экспрэсіўнасцю, тэмпераментам, энергіяй, дынамізмам сучаснага мыслення. Галоўны выяўленчы сродак у яго — мелодыя. Меладычны талент кампазітара раскрываецца ў кожным з твораў — то ўзвышана-рамантычных, усхвалявана-імклівых, то задуменна-пяшчотных, — быццам узгадаваных на меласе беларускай народнай песні.**

**Канцэрт з твораў Г. Ермачэнкава адкрыўся прэм'ерай паэмы «Настальгія» для хору і сімфанічнага аркестра (выканаўцы сімфанічны аркестр музычнага вучылішча, дырыжор У. Раманаў, хор педфакультэта Акадэміі музыкі, кіраўнік І. Аляхновіч). «Метамарфозы» для сімфанічнага аркестра нараджалі ва ўяўленні калейдаскоп народна-жанравых вобразаў. Шматгадовая практыка дырыжора, вопыт работы з аркестрамі ярка выявіліся ў «Скерца» для скрыпкі і фартэпіяна (вык. Ю. Казлова, А. Лішчанка), «Арыі і рэчытатывы памяці Ю. Логінава» для валторны (вык. І. Галінскі, А. Шкулепа), «Элегіі» для віяланчэлі (вык. Н. Мілаванава, Л. Барэйша), «Фантазіі» для флейты (вык. М. Захарчанка, Н. Мачыхіна).**

**Генадзь Ермачэнкаў родам з Палесся, з горада Рэчыцы. Уражанні дзяцінства, лірычная і пяшчотная прырода Беларусі — усё гэта жывіць творчасць кампазітара. Пад уражаннямі Палесся з'явіўся першы твор — «Элегія», з якой, як з зерня, узышлі ўсе наступныя кампазіцыі. Сярод іх ёсць музычныя п'ескі-сцэнкі, звязаныя з вобразамі іншых краін: «Тарантэла», «Экзатычны танец» (прагучалі ў выкананні цымбальнага ансамбля педфакультэта Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам В. Базылёва).**

**Ярка прагучалі ў выкананні аркестра народных інструментаў педфакультэта Акадэміі музыкі (дырыжор Л. Іваноў) задуменны «Накцюрн», пяшчотная лірычная споведзь — «Пад жураўліным крылом», драматычная п'еса «Край буслоў» — водгук на чарнобыльскую бяду. Завяршыўся аўтарскі канцэрт незабыўна: новым творам — «Паэмай» для аркестра народных інструментаў, прысвечанай Л. Іванову, вельмі дынамічна і выразна прадырыжыраваў сам Г. Ермачэнкаў.**

**Л. МАКАРАВА,**
выкладчык Магілёўскага музычнага вучылішча

## ГУЧЫ, ГАРМОНІК

**Дваццаць гадоў існуе знакаміты на ўсю рэспубліку народны сенніцкі танцавальны гурт. Выступаў ён за мяжой — у Чэхіі, Венгрыі, Германіі, Нарвегіі, Італіі. Вось нядаўна вярнуўся з Венецыі, з фальклорнага фестывалю. А на радзіме за дзесяць дзён гастроляў адпрацаваў у сельскіх правінцыях 17 канцэртаў. У самадзейным харэаграфічным суквецці Мінскай вобласці ён, бадай, адзіны з такім прафесійным узроўнем выканаўчага майстэрства.**

**«Ансамбль — мой паўсядзённы клопат, бо яго ўдзельнікі, як вялікая сям'я — кожнаму трэба дагадзіць, параіць, падказаць, — распавядае дырэктар сельскага Палаца культуры Ігар Мурашка. — Здараецца, што і пасварымся. Улічыце, што Палац культуры недалёка ад сталіцы і магнітам прыцягвае не лепшую гарадскую моладзь. Ды і калгаснікам сёння не да клубаў ды ансамбляў».**

**Асабіста мяне заўсёды цікавіла культурнае жыццё калгаса імя Гастэлы. Бо менавіта сюды некалі пераманіў я таленавітую сямейную пару, выхаванцаў Гомельскага музычна-педагагічнага вучылішча — баяніста і хормайстра Ігара і Наталлю Мурашкаў. Былыя ж кіраўнікі гаспадаркі, Героі Сацыялістычнай Працы Шыманскі і Пунтус неабыякава ставіліся да самадзейнага мастацтва.**

**Так з'явіўся ансамбль танца. Музычнае суправаджэнне яго зрабіў завуч музычнай школы Леанід Граковіч. Аснову рэпертуару склалі старадаўнія песні і карагоды. А побач — знакамітыя творы рускай, украінскай, малдаўскай класікі. «Ансамбль перспектыўны, — не без гонару адзначае балетмайстар Валерый Маёраў. — Ёсць удзельнікі, якія танцуюць не горш за прафесіяналаў: Ігар Станішэўскі, Сяргей Кавалёў, Таццяна Шкатула і іншыя».**

**А. СУРЫНОВІЧ,**
намеснік дырэктара мінскага абласнога Цэнтра народнай творчасці

# А ХТОСЬЦІ ВЫПАЎ З ГНЯЗДА...

## ТРЫ СПЕКТАКЛІ МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА

Сем метраў увышыню, сем — удаўжыню, шэсць — углыбіню: крок направа, крок налева?.. Сцэна!..

Цяпер — сцэна для прафесійнага тэатра, які падчас рамонту дамогся для сябе будынка чыстага, светлага, сухога ды сур'ёзнага. Дома палітасветы. У звязку з Магілёвам просіцца нейкая сацыяльна-палітычная паралель, але трасца з ёю. Важней тое, што балкон залы-адрыны ўжо перароблены на асвятляльны ды радыёцэхі, а цяпер трэба абавязкова ладзіць вынасны сафіт. Як замацаваць яго на даху, галоўны мастак тэатра Марк Волахаў ужо скеміў або вынайшаў, даючы рады змушанаму небыткаванню, бо ў бліжэйшыя тры-пяць гадоў давядзецца працаваць у самых антытэатральных умовах. Гэта досвед Марка Мікалаевіча пэўна падказвае.

Акцёры налаўчыліся ўжо маніпуляваць галасамі: падладжваюцца пад нязручнасці залы, але асяроддзе, для пасяджэнняў ды справаздач створанае, замінае-такі ўспрымаць твор на падмостках, не спрыяе і выявіцца выканаўцам, дый глядач змушаны асвойтацца з пункцірнаю сцэнічнаю мовай, дапасаванай да агульных невыгодаў. Між тым асяродак штовечар даводзіць магілёўцам пра стаўленне да мастацтва, вымагаючы чагосьці... рэпрызнага, просталінейнага або канцэртна-мантажнага, падпарадкаванага зусім не тэатральным запатрабаванням. Мяркуючы па білетах, зала запаўняецца на 54 %. Галоўны рэжысёр тэатра Ігар Перапёлкін таксама мяркуе, што глядач прызвычаіўся да касы ў цывілізаваным сэнсе слова, а каса ўжо выявіла, што самы папулярны драматычны спектакль у Магілёве — «Гэтыя вольныя матылі» Л. Герша: асабліва прыбывае публікі тады, калі замест фанаграмы «жывым планам» адрабляюць музыкі з вядомага гарадскога ансамбля, а фінал спектакля папярэднічае вялікай танцавальнай вечарыне ў фае. Спектакль, на які не імкнуцца раскупіць білеты, называецца «Уваскрашэнне» і пастаўлены паводле п'есы «Следчая справа Вашчылы» І. Чыгрынава. «Уваскрашэнне» таксама нагадвае танцавальную вечарыну, толькі здзяйсняецца ўжо яна праз акцёрскія вымогі ды рэжысёрскімі напінаннямі.

Асяродак заахвочвае... не тое каб штучную бадзёрасць, не тое каб абачлівае пільнаванне кішэнных глядацкіх «зайцоў» (цана білета ну ве-ельмі смешная). Асяродак засяроджвае не на пачуццях, а на адчуваннях, сярод якіх першынство за адчуваннем часовасці ды хуткаплыннасці. Тры-пяць гадоў небыткавання, а потым! Потым! Потым..

А потым дзе возьмецца ласка да ўсяго, што дзеелася? Магілёў, падобна, забыўся на Юрыя Міроненку, на Валерыя Маслюка, на Мікалая Пінігіна (яго неаднойчы запрашаў тэатр), на Аляксандра Дольнікава ды Андрэя Гузія (пры ўсіх выдатках абодва мелі той узровень цвярозых запатрабаванняў да свайго жыцця ў мастацтве, які вымагае павагі)... Тэатр цяпер змяніў будынак... стыль ... манеру абыходжання з гледачом ... рэпертуар... рэжысуру... Часова? Старыя сцены, ложы ды свяцільні, кратоўкі фігурнага вырабу ды друз між маснічынаў паркета, акустычныя вокны ды ляпніна, — ім што, таксама падпарадкавацца, падначальвацца, падпадаць пад прымусовую эстэтыку колькігадовых рамонтавых мітрэнгаў? Таксама...

«А хтосьці выпаў з гнязда»... Вабіў калісь такі спектакль у Магілёў нават са сталіц. Шчымлівыя думкі пра чалавецтва ці то прарочылі, ці то перагукаліся ўжо тады са старою і вельмі няўзнёслаю думкаю, якая банальна адлюстроўвала і крыўды свету, і спадзяванкі пакрыўджаных: стары тэатр, тэатр-сям'я, тэатр-гняздо мусіў рыхтавацца да перамен. Да раскідання. Да болю капітальнага рамонту. А калі рамонт яшчэ і рэстаўрацыя? Назоў яму, імя яму — стыхійнае бедства, пагром, здзек, вар'ятня, рэвалюцыя... Зязюльчына гняздо — вар'ятня спектакля Валерыя Маслюка неспадзявана накрэсліла радок-прадвызначэнне найноўшага тэатральнага жыццяпісу. Радок-выпрабаванне. Выпрабаванне перад усімі выпала насельнікам тэатральнага гнязда на... зязюльчыну якасць. На здатнасць або няздатнасць само гняздо зладзіць, скласці ды прычакаць у ім наступстваў (любых). Зязюлю, як вядома, мітрэнгі гнездабудавання абыходзяць...

І хтосьці выпаў з гнязда: акцёрскі век, кароткі ды помслівы, зробіць усё, каб у адноўлены тэатр не ўсе вярнуліся... хоць бы з тым, з чым пайшлі. А вяртацца наканавана не ў абжыты стогадовы тэатр-цацку, гарадскую гістарычную непазбежнасць. Найноўшага пылу панаб'ецца ў гістарычныя шчыліны, новы бетон падтрымае сцэнічную пляцоўку, новыя гукі спраўна адаб'е акустычнае акно. Якая слязіна ўрачыста ўпадзе на магілёўскае драматычнае вяртанне ў гняздо, — слязіна шкадавання па былым, раскіданым, аўтэнтычна-аварыйным, ці радасці ад сузірання зручнасцей ды выгодаў? Напэўна, пачуцці перамяшаюцца і не падменяцца адчуваннямі. А што да прыроды слёз, дык тэатр яе ўжо даследуе. Не жартам. Спектаклем «Зязюльчыны слёзы».

Што да драматычнага твора А. Талстога «Зязюльчыны слёзы», дык ён не ўяўляе сабою асаблівай каштоўнасці для тэатра, — той непаўторнай каштоўнасці для сцэнічнага прачытання, якое можа падарыць гледачам шэдэўр драматургіі або, мовім так, годны літаратурны досвед. Перад намі, прыдзірліва кажучы, п'еса-схема з неабавязковымі рэплікамі, з няпэўнымі (а варта, каб з дакладнымі ў такой побытава-прыземленай драматургіі) матывоўкамі ўчынкаў персанажаў, з прыблізнымі характарамі і да т. п. Натуральна, напісанае можна прадстаўляць парадыйна, ставіцца да персанажаў адцягнена, мімаходзь ацэньваючы іх акцёрскімі сродкамі, але... На ўсё гэта воля рэжысёрава. Рэжысёр Ігар Перапёлкін, ставячы свае выхаваўчыя задачы, дамагаўся, паводле яго самога, эфекту гэткага... сапсаванага Чэхава і таму змусіў сваіх зязюлек румзаць на сцэне — каго шчыра, каго на поўным сур'ёзе...

У правінцыйным горадзе Расіі пачатку стагоддзя, які нагадвае сапсаванага Астроўскага, жывуць два сябры. Адзін спакойны ды вытрыманы... абібок (у канкрэтным драматургічным творы савецкаму графу Талстому не собіла пасунуцца да старарэжымнага сп. Ганчарова з ягоным Абломавым), другі — зухаваты, спраўны, праўда, не справа як такая яго цікавіць, а, так бы мовіць, ён на фоне якой бы там ні было справы. Таму нічым жыццёва-грунтоўным ён не займаецца. Да лайдака і, адначасова, вытанчаных перажыванняў спадара раптоўна прыязджае жонка, актрыса. Зухаваты сябра, намагаючыся пусціць гэтай жонцы пыл у вочы, прыдумвае гісторыю пра вялікую занятасць і вялікую маентнасць яе мужа. Разыгрываецца спектакль у спектаклі. Жонка выкрывае абодвух і меладраматычнае патрабуе праўды. Або грошай. Пабочныя лініі апускаю свядома, таму што Ігар Перапёлкін, як высветлілася, ставіў свой спектакль менавіта пра шчырае, адданае сяброўства двух вартых мужчын, трохі пакрыўджаных жыццём. Ды пра нявартую кабету, якая абодвум паламала, сапсавала ідылічныя мужчынскія дачыненні. Ды так, што з ласкі рэжысёра давяла да смертазабойства (самагубства) вытанчанага мужа-лайдака насуперак самому драматургу А. Талстому.

На пачатку спектакля са сцэнічнае цемры перад суперзаслонаю пляма святла выхоплівае чалавечы твар — твар спадара Хамутова (Рыгор Белацаркоўскі). Твар засяроджаны, у перажываннях, у думанні думы. Яму, мяркую, і будзе прысвечаны рэжысёраў досвед, але памыляюся. Праз хвіліну яго змяняе іншый герой, Яблыкаў (Аляксандр Ташкіноў) і дзея, здаецца, вось-вось засяродзіцца на ім, аднак — зноў памылка. То мітусіцца герой А. Ташкінова: яму бракуе пэўнасці пачування, магчыма, характарнасці (і характару), але тое ж з рознай ступенню рацыі можна сцвярджаць амаль пра ўсіх у спектаклі. Бадай, гераіня Святланы Кліменкі (актрыса Маша Огнева, жонка Хамутова) адразу вымагае даверу. Эмацыйна, чулліва, па-правінцыйнаму яна іграе ды іграе... усё і ва ўсё, паўсюль і перад усімі. Яе гераіня амаль ідэальна ўжываецца ў афармленне, прапанаванае мастаком Маркам Волахавым, а яна грунтуецца на задніку, распісаным гарадскім краявідам, які нібы аддзяляе свет выяўлены, прыдуманы тэатрам ды драматургам ад няўмольнай жыццёвай іроніі: усё ў спектаклі трымаецца на тым міжвольным наіўным сур'ёзе, які часам кантралюе акцёрскі густ, а часам узбуйняе сюжэт, выгукаючы камічныя праявы. Зрэшты, глядацкія ўсмешкі падтрымліваюць абвешчаны жанр. Раз-пораз будуць з'яўляцца пазначкі побыту: імбрык, фатэль, крэслы, а ў другой дзеі — смешныя бутафорскія калоны на колцах, якія можна, абыгрываючы, рухаць паводле мрояў персанажаў... Рэжысёр не мроіць. Прастора на сцэне вызначана сур'ёзна: раз і да канца кожнае дзеі. А мараль наконт зязюльчыных слёз наўпрост супадае з шараговай, агульнапобытавай. Галоўнае расчараванне спектакля — менавіта ад супадзення праўды жыцця ды праўды мастацтва. Фінал, пададзены драматургам (шчаслівая прапанова двух бенефісаў і двухсот пяцідзесяці рублёў актрысе Огневай), тэатр увасабляе звышсумленна. Гэта — усеагульнае шчасце, якое, мовім так, ніхто чамусьці не матывуе: мо маладыя закаханыя (У. Пятровіч і В. Амяльчэня) радуюцца, што знікае назола Огнева, а Яблыкаў — што скончыліся ягоныя хлусліва-творчыя пакуты? Фінал ці то не сыграны, ці то, пры ўсёй павазе да рэжысёра, не вырашаны. Нішчыць яго менавіта аднолькавая радасць зусім розных людзей. Якраз у фінале гэтая радасць раскладаецца на вельмі і вельмі асабістыя...

Але Хамутоў Рыгора Белацаркоўскага... Свецяць блага, таму нешта казаць пра вочы акцёра не выпадае, хоць сабе сядай у першы рад. Але маштаб акцёрскай асобы такі, што разумныя вочы не трэба і грымам вылучаць: у ролі Хамутова ён змушаны рыхтаваць трагедыю, да якой даводзяць аперэтачныя пачуцці і... амаль пераконвае ў слушнасці ўчынкаў (акрамя самагубства) ды прапанаваных абставін! Белацаркоўскага не трэба выхоўваць сапсаваным Чэхавым, яму б — Чэхава не кранутага. Яму б — працы над самай непакорлівай драматургіяй...

Увогуле становішча і абставіны, навязаныя жыццём, цяпер такія, што цудам здаецца само існаванне тэатра. Цудам — што акцёры яшчэ не забыліся хадзіць па сцэне. Цудам — што хораша памятаюць тэкст. Што не ілюструюць яго прымітыўна, а ўсё-такі ставяць сабе мастацкія задачы: у такой размоўнай п'есе не толькі сяк-так акрэсліць персанажа, але (наколькі каму ўдаецца) выявіць сваё стаўленне да яго. Што да рэжысуры, дык ёй відавочна бракуе гумару. Сама іронія сцэнічнай звады, а таксама іранічнасць характараў не дачутыя, не выяўленыя. Таму ўсё, што дзеецца на сцэне, — недакладнае, размытае, але не прыкладам пастэлі або акварэлі, а прыкладам нячышчанае палітры. Бадай, работы Р. Белацаркоўскага ды С. Кліменкі самыя выразныя, заўважна выверяныя па ўнутраных лініях...

Але варта задумацца вось над чым. С. Кліменка сумленна ўзнаўляе сутнасць сваёй гераіні, правінцыйнай актрысы, усе штампы і штампікі яе ўяўленняў пра жыццё і сцэну. Жывое пачуццё мусіць праз гэта прарвацца, але што збядняе ролю, не даўшы шчырасці прарыву? Ці адна драматургія вінаватая? Малазразумелым, а то і не надта густоўным здаўся мне выхад Огневай-мары да мужа ў сцэне ягонай згадкі пра жонку. Надта просталінейна першае экспазіцыйнае з'яўленне Хамутова мусіла падказаць ягоную наспяваючую драму. Зусім ніякімі дзеяннямі не абгрунтаваны канапны лёс Хамутова: толькі ў размовах гучыць, што ён не хоча кіраваць маёнткам заможнага пана. Дзякуй тэатру, які на кожным кроку не поркае пальцам у сваіх персанажаў і не выстаўляе ім адзнак па паводзінах, у гэтым — праява тактоўнасці, але што ж канчаткова, пэўна, не прыблізна трэба іграць акцёрам? Патаемную сацыяльна-палітычную прычыну, якая не дазваляе Хамутову служыць? Інтымнай, і гэта даводзяць акцёры, нямашака. Філасафічнае, годнае расейскае лайдацтва, так пераканаўча й узорна апісанае сп. Ганчаровым, у выпадку з А. Талстым пазбылося і філасафічнасці, і годнасці, дый на «лішняга чалавека» пазнейшага часу ягоны герой не падобны...

Іграючы «сапсаванага Чэхава», хоць да мастацкае дэталі не трэба ставіцца літаральна... сапсавана: Яблыкаў кажа, што ён — «в поддёвке», а на ім — спраўны гарнітур. Па ходзе дзеі чуем: «Как стильно, как замечательно» ды «Всё до последнего гвоздя в стиле ампир», але з тае прычыны, што ніводзін цвік на ампір не выдае, проста патрабуюцца акцёрскія ацэнкі таму, што вымаўлена. Пра якую ступень мастацкай умоўнасці тэатр дамаўляецца-перадамаўляецца з гледачом? Выяўленчая, ад мастака — адна, ад рэжысёра — другая, выканаўцы прапануюць свае ступені...

На жаль, «сапсаваны Чэхаў» больш цягне на цалкавітага ды няспраўджанага графа Талстога-савецкага.

# НАШ КАЛЯНДАР

**2 верасня — 105 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы і педагога Канстанціна ШАПЯЛЕВІЧА (1889—1976). У 1925 годзе ў сааўтарстве з І. Мазурам выдаў чытанку для 3 класа «Чырвоная Беларусь», якая вытрымала затым яшчэ пяць перавыданняў. У 1931 годзе выйшла «Рабочая кніга на беларускай мове» для трэцяга года навучання, а праз год тры падручнікі па беларускай мове для пачатковай школы. Адпаведна для 1 і 2, 3, 4 класаў. Напісаў К. Шапялевіч і іншыя падручнікі.**

**3 верасня — 60 гадоў з дня нараджэння грузінскага літаратуразнаўцы Сілены КЕКЕЛІДЗЕ (1934—1985). Даследавала праблему грузінска-беларускіх літаратурных узаемасувязяў (беларускія навелы К. Лордкіпанідзе, беларуская тэма ў творчасці Б. Буачыдзе, Р. Гветадзе, А. Кутатэлі). Аўтар кнігі «Грузинско-белорусские литературные взаимосвязи» (1979).**

**4 верасня — 135 гадоў з дня нараджэння дзеяча беларускай культуры, выяўленчага мастацтва, педагога Браніслава ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ (1859—1934).**

**7 верасня — 280 гадоў з дня нараджэння паэта, педагога Міхала КАРЫЦКАГА (1714—1781, па некаторых крыніцах 1784). Пісаў на лацінскай мове. Найбольш вядомы твор — паэма «Птушыны сейм». Аўтар зборніка вершаў «Песні» (1817, Полацк), сатырычных твораў «Казка», «Ападосіс», «Дамэтас і Дафніс» і іншых.**

**7 верасня — 75 гадоў з дня нараджэння Алеся АСІПЕНКІ (1919—1994), вядомага беларускага пісьменніка, былога галоўнага рэдактара тыднёвіка «Літаратура і мастацтва».**

**8 верасня — 80 гадоў з дня нараджэння рускага паэта, перакладчыка Браніслава КЕЖУНА (1914—1984). Нашай рэспубліцы прысвяціў вершы «Беларускай зямлі», «Брэст», «Беларускім паэтам» і іншыя. Аўтар артыкула пра творчасць Я. Купалы, шмат перакладаў на рускую мову беларускіх паэтаў.**

**24 верасня — 90 гадоў з дня нараджэння беларускага і польскага этнографа М. ПЕЦЮКЕВІЧА (1904—1983).**

**27 верасня — 85 гадоў з дня нараджэння Лукаша КАЛЮГІ (1909—1937). Першыя апавяданні надрукаваў у 1927 годзе. Займаўся перакладамі. Ахвяра сталінізму, расстраляны 2 кастрычніка 1937 года.**

**29 верасня — 200 гадоў з дня нараджэння польскага пісьменніка, мемуарыста Ігната ХОДЗЬКІ (1794—1861). Аўтар «Літоўскіх малюнкаў» (1840—1862), «Мемуараў скарбніка» (1844), «Літоўскіх паданняў» (1852—1860), у якіх апісаны беларускія мясціны. У 1862 годзе выйшаў нарыс У. Сыракомлі «Жыццё і творы Ігната Ходзькі».**

**30 верасня — 85 гадоў з дня нараджэння рускага крытыка, перакладчыка, літаратуразнаўцы Яўгена МАЗАЛЬКОВА (1909—1969). Родам з Крычава. У 1968 годзе прысвоена званне заслужаны дзеяч культуры БССР. У 1948—1969 гадах — старшыня Камісіі, потым Савета па беларускай літаратуры СП СССР. Аўтар прац пра Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулю, К. Чорнага і іншых. Перакладаў творы беларускіх пісьменнікаў. За манаграфію «Янка Купала» ў 1950 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР.**

**У верасні — 80 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка і крытыка Рыгора ЖАЛЯЗНЯКА. Загінуў у 1942 годзе пры абароне Ленінграда. У 1941 годзе напісаў кандыдацкую дысертацыю «Паэзія М. А. Багдановіча». Пісаў нарысы. Шэраг вершаў надрукаваны ў зборніках «Мы іх не забудзем» (1949) і «Крывёю сэрца» (1967).**

# УКРАІНЦЫ СВЯТА СУСТРАКАЮЦЬ У БЕЛАРУСІ

**У дзень свята трэцяй гадавіны Незалежнасці Украіны мінчане цёпла прымалі выступленне гасцей з суседняй краіны — ансамбль народнай музыкі «Дзівограй». Канцэрт адбыўся ў Белдзяржфілармоніі. Са словамі прывітання да слухачоў звярнуліся пасол Украіны ў Беларусі Уладзімір Жаліба і мастацкі кіраўнік гэтага калектыву Яўген Чорнакандраценка.**

**Госці з Кіева выконвалі ў першым аддзяленні канцэрта народную музыку і песні, творы сучасных кампазітараў і замежных аўтараў. У другім — праграму «Карцінкі з ярмаркі», пабудаваную на ўкраінскім фальклоры.**

Мар'ян КРЫЎЧЫК

*Віншуем!*

# ЗМІТРУ БЯСПАЛАМУ — 60



У беларускай мастацка-краязнаўчай літаратуры не сказаць, каб вялікія традыцыі, тым не менш дасягненні яе відочныя. Найперш трэба згадаць тых, хто па сутнасці стаяў ля яе вытокаў, а гэта Янка Маўр і Віталь Вольскі. Цяпер дастойна працуюць прадстаўнікі новых пакаленняў. Сярод іх і Змітро Бяспалы, на мастакоўскім рахунку якога шэраг кніг аб прыродзе, найперш адрасаваных дзецям: «Лясныя хітруны» (1969), «У лясной каморы» (1972), «Мядзведзеў пачастунак» (1976), «Дзіўны птах» (1981), «Казкі Сіняга лесу» (1983), «Звери Беловежской пущи» (1987), «Птицы Беловежской пущи» (1988) і іншыя.

У творах З. Бяспалага прываблівае добрае веданне аўтарам жыцця прыроды, яе расліннага і жывёльнага свету, а таксама шчырасць, праніклівы лірызм, з якім расказвае аўтар пра тое, што бачыў уласнымі вачыма. І ў гэтым З. Бяспаламу-пісьменніку дапамагае З. Бяспалы-знаўца прыроды, падарожнік, грыбнік. А наколькі багатыя яго назіранні, як можа паўставаць ён чалавекам бывалым, што гатовы падзяліцца сакрэтамі: з іншымі, пераканала кніга «С полным лукошком», што мае падзагаловак «Записки грибника». Дарэчы, яна вытрымала два выданні. У дапоўненым выглядзе ў 1986 годзе выйшла і кніга З. Бяспалага для дзяцей «Лясныя хітруны».

Змітро Бяспалы стаяў ля вытокаў колішняга інфармацыйна-метадычнага бюлетэня, а цяперашняга часопіса «Родная прырода». З 1972 года быў адказным сакратаром гэтага выдання, затым доўгі час галоўным рэдактарам.

Перш жа чым стаць журналістам, пісьменнікам, пасля заканчэння ў 1956 годзе Рэчыцкага землеўпарадчага тэхнікума (нарадзіўся З. Бяспалы 28 жніўня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна) працаваў землеўпарадчыкам у Гродзенскай вобласці, служыў у арміі. Пасля звальнення ў запас, паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1963 годзе. Адначасова працаваў у рэдакцыі часопіса «Вожык» — супрацоўнікам, намеснікам рэдактара аддзела фельетонаў. Першае гумарыстычнае апавяданне надрукаваў у 1963 годзе. Выйшлі ў З. Бяспалага і зборнікі гумарыстычных апавяданняў «Сякера пад лаваю» (1970) і «Ад варот паварот» (1977). Склаў кнігу «Беларускія народныя жарты» (1970), з'яўляецца адным з аўтараў фотаальбома «Пакланіся прыродзе».

З днём нараджэння, Змітро Аляксандравіч! Няхай і надалей вам спадарожнічаюць жыццёвыя і творчыя поспехі!

# АДЗІН З ПІЯНЕРАЎ АДРАДЖЭННЯ

16 жніўня споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Уласава, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху, аднаго з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады. Ён быў рэдактарам-выдаўцом газеты «Наша Ніва», шмат зрабіў для выяўлення і падтрымкі літаратурнай моладзі. Пры актыўным удзеле А. Уласава былі наладжаны выданні беларускіх календароў, зборнікаў «Нашай Нівы», кніг Я. Коласа, Ядвігіна Ш., М. Багдановіча, Э. Ажэшкі і іншых. Вільня ў пачатку стагоддзя, як вядома, была ядром беларускай інтэлігенцыі. Менск заставаўся ў рэзерве, трэба было яго разбудзіць. У 1913 годзе А. Уласаў едзе ў гэты горад, які любіў яшчэ больш за Вільню. Пра яго жыццё ў Менску мы даведаемся з успамінаў «Менск-беларускі, 1912—1914 г.» (Успаміны захоўваюцца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, перадрукоўваліся ў адным з выпускаў зборніка «Шляхам гадоў»).

«Афіцыяльнае рэдактарства «Нашай Нівы» я перадаў Я. Купале, — піша А. Уласаў. — Купала, кончыўшы вячэрнія курсы сярэдняй школы ў Пецярбурзе пад апекай дабрэйшай душы — беларуса Эпімаха-Шыпілы, настолькі ўжо адшліфаваўся, што мы яго з «дзядзькаў» павысілі ў рэдакцыйныя «палкоўнікі». Ужо былі выраблены і мова газетная і машына рэдакцыйная была, як кажуць цяпер, «стабилизирована». Заданне наша было: «Даеш Менск!»

Спыніўся А. Уласаў у свайго швагра А. Сніткі, заснавальніка царкоўна-гістарычнага музея, аматара археалогіі і беларускай гісторыі. «Адным словам, я «ўцэнтраваўся» ў Менску, куды рашыў перанесці «Саху»... Вуліцу Аляксандраўскую, дзе я паставіў першую беларускую нагу альбо, як сказаў бы летапісец, адкуль пачалася беларуская сталічнасць Менска, трэба па справядлівасці і буржуазнай і пралетарскай назваць вуліцай «Сахі і Лучынкі». Згаджаюся нават загадам на вуліцу Сахі».

Пазычыўшы грошай, А. Уласаў зняў па вуліцы Аляксандраўскай, 25 магазін і кватэрку, але сумняваўся, ці пачынаць у Менску свае беларускія справы. Але аднойчы сустрэў паэта Зязюлю (ксяндза Астрамовіча) і ўсё было вырашана: «Зязюля падняў мой дух. «Валі, без ніякіх!» Дастаў кашалёк і пасля хвілёвага помыслу выняў закручаны ў паперку паўімперыял. Відаць, «опіум для народа» мала даваў даходу беларускаму ксяндзу... Ён мне аддаў усё, што меў, і цытадэль на Аляксандраўскай я заняў, заставалася набраць гарнізон».

Пры дапамозе дачкі старажоўскага домаўласніка і яго сына Юзіка, які вярнуўся з ваеннай службы, былі сваімі рукамі абсталяваны рэдакцыя і магазін. Уласаў выклікаў свайго вечнага кампаньёна па газетнай працы Ядвігіна Ш. І хаця была восень, сцюжа, дроў не хапала, работа закіпела. Выпусцілі першы нумар «Сахі», адчынілі кнігарню.

«Творчая думка кіпела ў нас, кватэра рэдакцыі была адначасова і заездным домам. На даўжэзны час пераехала да нас Цётка. Заязджалі да нас пад апеку Цёткі Канстанцыя Буйла, Станкавічанка (жонка Купалы) і іншыя. Надумаліся мы выдаваць літаратурны месячнік «Лучынку». Найбольш душы ў гэта ўкладала Цётка. Па пятніцах збіраліся нашы песняры і празаікі: Альберт Паўловіч, здаравякі юмарыст з натуры, дабрак з яснымі і праўдзівымі вачыма, Галубок, студэнт Фарботка (можа, тады яшчэ гімназіст), экспансіўная, як феерверк, Цётка. Яны чыталі свае рэчы, ацэньвалі, крытыкавалі, укладалі нумар «Лучынкі».

Далей Уласаў піша: «Цяпер страчаны ўжо гэты стыль студэнцкіх вечарынак, дзе ўсе былі жыццерадасныя, як маладыя шчаняты, быў бляск розуму, гутаркі па душах, пекныя летуценкі, музыка, спеў. Шырокага грамадзянскага жыцця тады не было, ні мітынгаў, ні палітычных сходак, як цяпер. Рэжым 1913 года быў яшчэ, як кажуць, «прыжымам».

Гэтыя вечарынкі, ды яшчэ беларускія, было нешта з роду выходзячае, арыгінальнае, маючае крыніцу з толькі што прабуджаючагася народнага генія».

Каля рэдакцыі «Сахі» і «Лучынкі» менскія дзяўчаты і хлопцы наладзілі тэатральную трупу і хор. Выступалі ў розных мясцінах, выязджалі нават у Радашковічы. Там быў трыумф. Ставілі купалаўскую «Паўлінку». На спектакль прыехалі Янка Купала і Ядвігін Ш.

Менская трупа са станцыі Радашковічы да Мігаўкі ішла пехатою праз лес са спевамі, узяўшыся за рукі. Грымеў бас А. Смоліча. У той дзень у Радашковічах быў кірмаш, Уласаў са Сніткамі арганізавалі выстаўку тканін. Дзяўчаты, і сярод іх дачка Сніткі, з'явіліся ў беларускіх нацыянальных вопратках. Частка людзей сабралася ў самім тэатры (стадола Ліпмана), а большасць вакол на двары.

«Самае забаўнае, — працягвае Уласаў, — што ў Радашковічы прыехаў шляхціц, з якога Купала спісаў тып у «Паўлінцы». Гэты шляхціц першы раз у жыцці быў у тэатры і пабачыў самога сябе. Баяліся скандалу, але шляхціца гэтак накачалі гарэлкай, што ён не мог сказаць ні папы, ні мамы...».

Чытаючы ўспаміны, мы бачым не толькі вялікую работу А. Уласава на ніве беларускага адраджэння, але і тое, што гэта быў вельмі цікавы, абаяльны чалавек, з вялікім пачуццём гумару, шчырай і закаханаю душою, з талентам згуртоўваць вакол сябе людзей.

А. Уласаў піша: «У мілым старым Менску я жыў радасна, весела, к чорту паслаў палітыку, работа беларуская сама пёрла, я толькі кіраваў і паддаваў жару. Меў я добрую базу — дом Сніткаў — гасцінны і інтэлігентны. Андрэй Канстанцінавіч залажыў царкоўна-гістарычны музей (ён паслужыў асновай цяперашняму беларускаму музею ў БССР), маладыя хлопцы Сніткі і дачка (цяпер гераічная жонка Б. Тарашкевіча) сваімі яшчэ дзіцячымі сэрцамі мне радасна спагадалі. Мне пачало перці шчасце. Я адмок пасля доўгага суровага спартанскага стажу».

А далей Уласаў з мяккім гумарам, а, магчыма, і са шчырым шкадаваннем піша, што ў Менску яго праца пераплялася з каханнем, што ён спаткаў чорнавалосую, чарнавокую палескую «прынцэсу»: «Адразу нас прыцягнула, як два магніты. Жыць не маглі адзін без другога. Свет увесь нам здаваўся раем. Пісаў нескладныя вершы ў альбомы...»

Жыццё А. Уласава так цесна пераплялося з беларускім рухам, што цяжка аддзяліць асабістае яго жыццё ад грамадскага. Свае ўспаміны ён пісаў праз 16 гадоў, калі шмат што змянілася ў жыцці. Змяніўся і ён сам: «Я ўжо, як пісаў Уладзімір Манамах, «сяджу на санях жыцця», г. ё. бліжэй да канца сваёй чалавечай кар'еры. Рады нашы старых беларусаў моцна парадзелі! Хочацца ўспомніць для павучэння моладзі, хаця ідэі, жыццё народа не стаіць на месцы. Пакаленні змяняюць пакаленні. Вечныя толькі праўда і пекнасць, да якой цягнуцца, як да сонца, людскія масы. Ёсць нейкі ланцуг, працягнуты з пакалення ў пакаленне. Звёны яго неразрыўныя. Гэта змушае мяне ўзяцца за пяро. Мы таксама скавалі некалі пару такіх звенняў».

Апошнія гады жыцця А. Уласаў жыў у вёсцы Мігаўка пад Радашковічамі. Валодаў 60 гектарамі зямлі і здаваў яе ў арэнду нейкаму Канстанціну Лагіновічу, які плаціў за гэта паловай ураджаю. Але гэты арандатар аказаўся агентам польскай паліцыі, сачыў за Уласавым, даносіў на яго, за што яму сыпаліся штрафы. Уласаў нават быў абвінавачаны ў арганізацыі нелегальнага сходу з удзелам члена КПЗБ Пятра Жлоўды. Аб гэтым мы даведваемся з ліста Уласава кіраўніку тымчасовага ўпраўлення ў Маладзечне, які ён напісаў 16 верасня 1939 года, з просьбай застацца ў Мігаўцы да ўрэгулявання сваіх спраў. На некалькі дзён раней, 12 верасня, Уласаў піша ліст да Антона Луцкевіча ў Вільню, дзе паведамляе, што ў час сходу паставіў сваю рэзалюцыю аб адабрэнні далучэння Заходняй Беларусі да Ўсходняй.

Далей у лісце ён піша: «Батрацкі камітэт выразаў мне дом і 5 гектараў за маю працу ўсяго жыцця. Часовае ўпраўленне ў Радашковічах гэта зацвердзіла, але т. камісар з У. Беларусі мне кажа, што я «памешчык», і каб я выносіўся з Мігаўкі, узяўшы, як тут практыка, пальто і шапку. Сяляне, даведаўшыся аб гэтым, былі як перуном аглушаны. Пакуль што на колькі дзён устрымалі, але прыйдзе мамент, што я буду, як «Кароль Лір» Шэкспіра».

Уласаў згадвае, што ў яго захаваўся вялікі архіў па школьных беларускіх справах, фотаздымкі, кнігі, што пачаў пісаць свае ўспаміны. Збіраецца паехаць у Краснае, Маладзечна і, магчыма, калі атрымаецца, у Вільню. Што жонка хацела быць настаўніцай у Мігаўцы, а ён адчыніць беларускую гімназію ў Радашковічах, але становішча яго пахіснулася.

Аўтографы гэтых лістоў былі перададзены ў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы 5 лютага 1992 года намеснікам начальніка ўпраўлення КДБ РБ па Мінскай вобласці Уладзімірам Мацкевічам. Разам з імі былі перададзены таксама польскі пашпарт А. Уласава, маленькі фотаздымак 30-х гадоў, апраўдальныя характарыстыкі, дадзеныя жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Луцэвіч і членам КПЗБ М.Арэхвам у 1958 годзе для рэабілітацыі А. Уласава, якога ў 1939 годзе арыштавалі і выслалі ў СібЛАГ Навасібірскай вобласці, дзе ў 1941 годзе ён і памёр. Рэабілітаваны намаганнямі жонкі ў 1961 годзе.

**Л. АСТАПКЕВІЧ,**

**загадчык аддзела Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

*Усё часцей звяртаемся мы да вытокаў нашае дзяржаўнасці. І гэта зусім натуральна: кожны народ мае патрэбу ведаць сваю гісторыю і, вядома, гісторыю сваёй дзяржавы. Якраз наш народ не раз пакутаваў на найгоршую, смяротную хваробу любой нацыі — гістарычнае няпамяцтва. І нам добра вядомыя наступствы тае хваробы, бо перажываем мы іх яшчэ і зараз.*

# КОЙДАНАЎСКАЯ САМАСТОЙНАЯ РЭСПУБЛІКА

Гісторыя станаўлення беларускай дзяржавы цесна звязана з лёсам беларускага народа. Адчувальнаю гэтая сувязь была і на пачатку XX ст. Абуджэнне свядомасці мас, а найперш нараджэнне нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі, якая зразумела і здолела выказаць гістарычныя інтарэсы і памкненні народа, прывялі да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Абвешчаная другой і трэцяй Устаўнымі граматамі незалежнай дзяржавай у этнічных межах рассялення беларускага народа, БНР апынулася ў складаным становішчы. Фактычна з'яўленне новай дзяржавы на арэне вайсковых дзеянняў аніяк не ўпісвалася ў планы ўрадаў тых краін, што ўжо незамала чацвёрты год вялі згубную вайну. Вайна, аднак, набліжалася да развязкі і падыходзіла да заключнай сваёй фазы, дзяльбы тэрыторый. Інтарэсы народаў пры гэтым улічваліся найменей: панавалі інтарэсы пэўных палітычных груповак, якім належала ўлада. У такіх варунках паўставала незалежная беларуская дзяржава. Тым не менш на той час БНР выступіла адзіным абаронцам усяго беларускага народа і прадстаўніком яго ў сусветнай супольнасці. Першую беларускую дзяржаву напаткаў трагічны лёс. І ўсё ж яна адыграла надзвычай важную ролю ў беларускай гісторыі, дала пачатак новаму этапу станаўлення беларускай дзяржаўнасці.

Пакрысе нам адкрываюцца новыя старонкі з гісторыі 1917—1921 гг. Шмат што яшчэ і зараз, на жаль, невядомае. Цягам больш як 70 гадоў падзеі таго часу ўтойваліся ад народа або фальсіфікаваліся, калі іх нельга было замоўчваць. Тое ж, што было вядома менш, і ўвогуле знікала ў прорве гісторыі дзякуючы бальшавіцкай палітыцы сцірання «непатрэбных» фактаў мінуўшчыны. Гэтак адбылося і з падзеямі, звязанымі з абвяшчэннем Койданаўскай Самастойнай Рэспублікі (далей — КСР).

КСР паўстала ў сярэдзіне лістапада 1920 г. як акт супраціўлення акупацыі Беларусі бальшавіцкімі войскамі. Бадай, адначасова адбываліся нацыянальна-вызвольныя паўстанні на Случчыне, у іншых мясцінах краіны. Мажліва, гэта была апошняя спроба адстаяць незалежнасць БНР на яшчэ вольных ад бальшавікоў і белапалякаў землях. КСР пратрымалася ўсяго чатыры дні. За гэты час была прынята адозва да насельніцтва. На жаль, поўны змест тае адозвы пакуль невядомы, але з «Гісторыі Койданаўшчыны» (1932) вынікае, што ў ёй змяшчаўся заклік да змагання «за вольную Беларусь». Няма сумневу, што Койданаўская Самастойная Рэспубліка знайшла падтрымку ў мясцовага насельніцтва. Пацвярджэннем гэтага можа лічыцца тое, што жыхарства не выказвала аніякага незадавальнення ўладай. Ахвотна і з разуменнем прыняты быў першы загад кіраўніка паўстання пра наладжванне абароны мястэчка. Згодна з ім кожны дзень і гадзіну вызначаўся адпаведны нарад з паказаннем прозвішчаў. Ахова мястэчка была ўскладзена на ўсіх маладых мужчын. Кіраўніцтва было сваё, мясцовае. Але не толькі гэта прычынілася да падтрымкі паўстанцаў на Койданаўшчыне. Паўстанне мела добра падрыхтаваную сацыяльную і нацыянальную глебу.

Падчас нямецкай акупацыі ў Койданаве была заснавана мясцовая арганізацыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады. У яе ўвайшлі дырэктар пачатковай школы Тоўсцік, іншыя прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі (вядомае яшчэ прозвішча Шачукевіча). Адначасова паўстала і Койданаўская местачковая беларуская рада. Яе прадстаўнік разам з двума іншымі прадстаўнікамі мясцовых радаў быў каптаваны 9 ліпеня ў Раду БНР. Распачалася і культурна-асветніцкая праца. Улетку 1918г. у Койданаве з'явіўся драматычны гурток. Як піша А. Калубовіч, «... у вялікім гумне, перарobленым на «тэатр»... ставіў (гурток) п'есы «Паўлінка», «Антось Лата», «Ня розумам сьцяміў, а сэрцам» К. Вясёлага, «Па рэвізіі»...

Як вядома, у канцы лістапада Рада БНР перад сваёй эвакуацыяй у Вільню выступіла з адмысловаю Граматаю. Яна, у прыватнасці, заклікала ствараць беларускія сялянскія рады. На адыходзе немцаў 8 снежня 1918 г. быў скліканы першы раённы З'езд Саветаў. Старшынявваў на з'ездзе селянін з в.Садкоўшчына А. К. Хаменка. З'ездам быў абраны першы выканкам на чале з В. З. Нупрыкам. У склад яго ўвайшлі Ф. Нядзвецкі, Н. Сантаровіч, Е. Куль, П. Калечыц, А. Векша, Н. Шот, М. Бубіга, С. Капялевіч, Л. Эвенчык, В. Шаблоўскі, Я. Пушкарэвіч, М. Маршак і інш. У выканкаме былі прадстаўлены розныя сацыяльныя групы насельніцтва воласці. Знаходзіліся ў складзе выканкама і прадстаўнікі розных палітычных партый (сярод іх 2 камуністы). Саветы ўзялі на ўлік маёмасць абшарнікаў, што сышлі з немцамі, а ўзятае на ўлік абшарніцкае збожжа раздавалася беднякам. Пры яго нястачы саветы куплялі хлеб у больш заможных сялян.

Па прыходзе бальшавікоў Саветы, відавочна, былі пазбаўлены рэальнай улады. Яна перайшла да адпаведных бальшавіцкіх органаў. Аднак бальшавікі трымаліся нядоўга. Неўзабаве ім прыйшлося адступаць. Тое, што было неразрабавана немцамі і бальшавікамі, пачалі рабаваць і вынішчаць палякі, якія прыйшлі на Койданаўшчыну падчас жніва ў 1919 г. Белапалякі адразу ж арыштавалі старшыню выканкама Н. Сантаровіча, загадчыка зямельнага аддзела Векшу, начальніка міліцыі П. Калечыца, М. Бубігу, Жылінскага і інш. Сантаровіча, Векшу і Калечыца неўзабаве выпусцілі. Акупацыйныя ўлады ўсклалі на насельніцтва вялікую кантрыбуцыю.

Не затрымаліся ў Койданаве, аднак, і белапалякі. Па іх адыходзе ў мястэчку заняўся пажар. З адзінаццаці вуліц ацалелі толькі чатыры. Койданава зноў занялі бальшавіцкія аддзелы. Аднак шырокі наступ Чырвонай Арміі змяніўся гэткім жа паспешлівым адступленнем. Праз беларускія вёскі і мястэчкі праходзілі напаўгалодныя адарваныя ад тылу бальшавіцкія часткі. Вайсковыя дзеянні на Койданаўшчыне гэтым, аднак, не скончыліся. Колькі разоў мястэчка пераходзіла з рук у рукі. Баі за Койданава доўжыліся 7 дзён. Нарэшце палякі адступілі да лініі в.Каменка (цяпер Уздзенскі раён) — Коласава— Мікулічы — Навінкі — Саковічы — Гаруцішкі. У гэтых вёсках існавалі заставы. Бальшавікі сталі на правым беразе Усы. Такім чынам утварылася г. зв. нейтральная зона.

Падзеі, што разгортваліся на Койданаўшчыне, маглі служыць яскравым доказам пагарды ўрадаў суседніх дзяржаў да правоў беларускага народа. На яго зямлі гаспадарылі іншаземныя войскі. Абвяшчаючы сябе вызваліцелямі беларусаў, захопнікі і не збіраліся ўлічваць інтарэсы тых, каго меліся «абараняць».

У гэтых умовах найбольш свядомыя колы мясцовага жыхарства вырашылі ўзяць уладу ў Койданаве ў свае рукі.

Першую такую спробу зрабілі якраз пасля першага адступлення палякаў — у ліпені 1920 г. Быў арганізаваны Беспартыйны камітэт, кіраўніком якога вылучылі доктара Нікольскага. Камітэт разагнаў мясцовы рэўкам.

У лістападзе 1920 г. гэтая спроба была паўторана. Пасля ўтварэння нейтральнай зоны ў Койданаве зноў быў заснаваны рэўкам. Ён выдаў загад, згодна з якім «дэзерцірам» належала з'явіцца для накіравання ў Чырвоную Армію. А як бальшавікі лічылі «дэзерцірамі» ўсіх мужчын прызыўнога ўзросту, якія не знаходзіліся ў войску, такіх было шмат. Кідаць жа гаспадарку і ісці ваяваць невядома куды ды невядома за што ніхто не хацеў. Таму, зразумела, ніхто на загад не адгукнуўся. 10 лістапада з Менска прыехаў прадстаўнік павятовага выканкама Ульдукіс. Былі арыштаваны некалькі чалавек з Макаўчыц. На другі дзень частковыя арышты правялі і ў мястэчку. Уначы жыхарства Койданава кінулася да рэўкама і вызваліла вязняў. Рэўкам быў зноў разагнаны.

12 лістапада з Менска прыехаў міліцэйскі аддзел. Бальшавіцкая ўлада ў Койданаве была аднаўлена. Частка паўстанцаў адышла да Дзягільна і Касілава. Фактычна тут былі ўтвораны базы паўстанцаў. Сюды сцякаліся бежанцы з акупаваных бальшавікамі мясцін. Паўстанцкі штаб мясціўся ў фальварку Янава, непадалёк ад Дзягільна.

Бальшавікі пачалі рэпрэсіі ў дачыненні да сялян. Рэўкам арыштаваў жыхароў в.Рудзіца. Гэтыя арышты паслужылі штуршком для арганізаванага антыбальшавіцкага паўстання. Прадстаўнікам Савецкай улады прапанавалі вызваліць вязняў і ў 3-дзённы тэрмін выйсці з мястэчка. Прапанова была праігнаравана. Пасля сканчэння тэрміну ультыматуму паўстанцкія аддзелы выступілі з Дзягільна. Рэўкам быў разагнаны, а яго супрацоўнікі — арыштаваны. Паўстанцы абвясцілі ў Койданаве і нейтральнай зоне Койданаўскую Самастойную Рэспубліку. Самы чынны ўдзел у гэтай справе бралі Павал Калечыц, Баравік, Тодар Куль, Юзік Пятухоўскі, Міхась, Іван і Казімір Доўнары, Уладзімір Вашкевіч, Кастусь і Зэнка Лобачы, Іван Тарнагурскі, Павал Бабраўніцкі, Іван Грушэўскі, Варатніцкі, Юзік Сікорскі, Алесь Кавалеўскі, Андрэй Мялешка, Драздоўскі, Міхась Мазуркевіч, Тоўсцік, Іван Быкоўскі, Сачко, Павал Шот, Дудкоўскі і інш. Паўла Калечыца абралі кіраўніком паўстання.

Пра існаванне КСР даведаліся чырвонаармейскія часткі, што стаялі за Усою. Стуль у кірунку на Койданаў быў высланы аўтамабіль. Каля мястэчка аўтамабіль быў абстраляны вартаю і змушаны вярнуцца назад.

... Койданаўская Самастойная Рэспубліка адлічвала чацвёрты дзень існавання, калі да мястэчка падышлі кавалерысты 12-га стралковага палка. Паўстанцы мусілі адступаць да Дзягільна. Увечары паўстанцы зрабілі спробу контрнаступу. Выбіць рэгулярныя чырвонаармейскія часткі з Койданава, аднак, не ўдалося. Фактычна КСР была зліквідавана. Але барацьба з захопнікамі не спынілася. Яна набыла форму партызанскага змагання.

Базамі паўстанцаў па-ранейшаму заставаліся Дзягільна і Янава. Відавочна, адсюль вялася дыверсійная антыбальшавіцкая праца. Дакладных звестак пра характар і інтэнсіўнасць гэтых акцый няма. У дакументах НКУС зафіксаваны, аднак, факт нападу на мястэчка Койданаў у ноч з 16 на 17 сакавіка 1921 г., напярэдадні заключэння Рыжскага трактата, паўстанцкага аддзела. «Па стрэлах бандытаў моц іх вызначалася ў 200 чалавек і болей». З гэтага ж дакумента, а таксама з «Гісторыі Койданаўшчыны» можна зрабіць выснову, што дзеянні паўстанцаў былі накіраваны супраць бальшавіцкіх органаў улады і супрацоўнікаў гэтых органаў.

Відаць, напады не адбываліся стыхійна. Відавочна, яны рабіліся ў адказ на адпаведныя рэпрэсіўныя меры Савецкай улады супраць мясцовага насельніцтва. А таму менавіта мясцовыя жыхары дапамагалі паўстанцам. Пра гэта пісала і газета «Известия» ад 1 ліпеня 1921 г.: «Сялянства, якое ў цэлым супраць бандытаў, да таго імі тэрарызавана, што вымушана не толькі хаваць, але і часцяком падтрымліваць іх, не кажучы пра тое, што іх усяляк падтрымліваюць іх жа сем'і і сваякі, у мінулым годзе выселеныя намі» (разрадка мая — В. Ш.).

Партызанская вайна не магла, аднак, доўжыцца доўга. Па сутнасці, яна скончылася з падпісаннем у Рызе савецка-польскай дамовы 18 сакавіка 1921 г. Згодна з гэтым трактатам беларуская зямля зноў была падзелена паміж хцівымі дзяржавамі-суседзямі. Койданаў канчаткова адышоў да Савецкай Беларусі. У самой БССР рэжым спакваля мякчэў. Уводзіўся нэп. Скончылася грамадзянская вайна, і Чырвоную Армію пачалі скарачаць. Таму адпала неабходнасць змагацца з «дэзерцірамі».

Як склаўся лёс паўстанцаў далей, невядома. Ды і шмат што яшчэ невядома з гісторыі падзей на Койданаўшчыне ў 1917—1921 гг. Аўтар гэтай публікацыі звяртаецца да жыхароў Койданаўшчыны, хто мае хоць нейкую інфармацыю пра тыя падзеі і асоб, з просьбаю дапамагчы ў збіранні матэрыялаў.

**Вадзім ШОСЦІК,**
**навучэнец Беларускага гуманітарнага ліцэя**

# НЕАБХОДНАЕ ПАСЛЯСЛОЎЕ

Вадзім Шосцік напісаў гэты артыкул без усякага кіраўніцтва і апекі. Сам койданавец, ён зацікавіўся гісторыяй свайго горада, папрасіў адпаведную паперу для працы ў архіве, сабраў матэрыялы і на іх падставе напісаў гэты тэкст.

Што атрымалася — меркаваць чытачам. Я ж хачу звярнуць увагу на адзін момант з гісторыі БНР. Ён звязаны з Радамі (Саветамі) сялянскіх і рабочых дэпутатаў. Гэтыя органы ўлады ствараліся пасля таго, як быў дэнансаваны Берасцейскі трактат і нямецкая ўлада аслабела, Першы Савет узнік у Менску ў лістападзе 1918 г. Потым Рада БНР звярнулася з адмысловаю Граматаю. 15—16 снежня 1918 г. у Гародне адбыўся Беларускі сялянскі з'езд, якім кіраваў намеснік старшыні Рады БНР Аркадзь Смоліч. Была абрана Гарадзенская павятовая Рада на чале з будучым сябрам Беларускай вайсковай камісіі і ўдзельнікам Слуцкага паўстання Андрэем Якубецкім. Савет сялянскіх і рабочых дэпутатаў сабраўся і ў Ваўкавыску. Яго ўзначаліў таксама будучы слуцкі паўстанец Фёдар Данілюк. У Сакольскім павеце беларускія органы ўлады стварыў Макар Касцевіч (Краўцоў)...

Гэта толькі некаторыя факты, якія дагэтуль былі вядомыя мне. З Вадзімавага артыкула я дазнаўся і пра койданаўскі з'езд Саветаў 8 снежня 1918, пра створаны ім выканкам.

З усіх матэрыялаў, даступных мне, можна зрабіць выснову: Рады (Саветы), створаныя ў канцы 1918 — пачатку 1919 г., ставілі на мэце абарону народа як ад бальшавіцкіх, гэтак і ад польскіх памкненняў. На жаль, дзеячам і ўраду БНР для стварэння радаў паўсюдна і для іх кансалідацыі не хапіла галоўнага — часу. Ад першай Устаўной Граматы і да Лістападаўскай рэвалюцыі ў Нямеччыне немцы не давалі разгарнуцца формам беларускай дзяржаўнасці. А пасля Лістападаўскай рэвалюцыі адрадзілася Польская дзяржава, якую ўзброілі і заахвоцілі да наступу на ўсход краіны Антанты (асабліва Францыя). З усходу ж на слабую беларускую дзяржаву наступала чырвоная чума. І ўсё-такі народ, а не толькі Язэп Лёсік і Антон Луцкевіч, тварыў органы ўлады і спрабаваў абараніцца ад «дабрадзеяў» — як заходніх, гэтак і ўсходніх.

...Павал Калечыц, у канцы 1918 г. начальнік міліцыі ў Койданаве, як і незнаёмыя яму А. Якубецкі, Ф. Данілюк, М. Касцевіч, абраў у рэшце рэшт шлях збройнага змагання « за вольную Беларусь». Гэта яшчэ раз пацвярджае патрыятычнасць Радаў (Саветаў) канца 1918 — пачатку 1919 г. Гэта, як мне думаецца, павінна прымусіць гісторыкаў не толькі трохі інакш зірнуць на гісторыю беларускага вызвольнага руху, гісторыю БНР, але і на гісторыю саміх Саветаў.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ,**
**выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя**

## КАБ ЛЕПЕЙ ВЕДАЦЬ ДАЎНІНУ

**Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут і выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі па ініцыятыве Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны выпусцілі зборнік дакументаў па архітэктуры і картаграфіі Беларусі, што знаходзяцца ў архівах Санкт-Пецярбурга і Вільні.**

**Першая частка даведніка называецца «Беларускія картаграфічныя матэрыялы ў Расійскім дзяржаўным архіве Ваенна-марскога флоту (Санкт-Пецярбург)». У прыватнасці, у гэтым архіве ёсць планы Полацка, Рагачова, Стоўбцаў, Клімавіч, Навагрудка, Кобрына, Копыся, Мінска, Магілёва, Мазыра, матэрыялы пра будаўніцтва крэпасцяў у Бабруйску, Брэсце, Рагачове, чарцяжы Быхаўскага замка, розных будынкаў Нясвіжа, забудовы Слуцка. Уяўляюць цікавасць рукапісныя карты і атласы Сожа і Дняпра, складзеныя ў XVIII стагоддзі...**

**Шмат карыснага можна даведацца і з другога раздзела «Беларускія графічныя матэрыялы ў Дзяржаўным гістарычным архіве Рэспублікі Літва і Аддзеле рукапісаў навуковай бібліятэкі Віленскага універсітэта». Тут назвы спраў, у якіх захоўваюцца матэрыялы Таварыства аматараў навук у Вільні. Называюцца і фатаграфічныя зборы Віленскай публічнай бібліятэкі, Віленскага музея старажытнасцей.**

**Наклад зборніка абмежаваны, усяго 300 асобнікаў. Набыць яго можна ў будынку «Беларускай энцыклапедыі» (Мінск, вул. Ф. Скарыны, 15-а, былая Акадэмічная). Дарэчы, цяпер вядзецца работа над новым зборнікам. Змест яго складуць матэрыялы, што захоўваюцца ў архіве Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры Расіі ў горадзе Санкт-Пецярбурзе.**

## «ЧАРОЎНЫ ЎСПАМІН»

**Такую назву мела вандроўка, ў якую выправілася ў першай палове жніўня даволі значная група інтэлігенцыі і моладзі горада Магілёва. Вандроўка была прысвечана 200-угодкам паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і ставіла перад сабой мэту наведаць і азнаёміцца са славутымі помнікамі гісторыі і культуры Беларусі.**

**За шэсць дзён удзельнікі вандроўкі наведалі музей архітэктуры і быта пад Мінскам, атрымалі найвялікшую асалоду ад пявучай і сакавітай беларускай мовы з вуснаў загадчыцы музея Якуба Коласа ў Смольнў; з захапленнем аглядалі Фарны касцёл, выкананы ў стылі барока і палацава-паркавы комплекс у Нясвіжы; стоячы на сценах Мірскага замка, уяўлялі сабе абарону яго паўстанцамі ў 1794 годзе; адчулі веліч муроў Навагрудскага і Лідскага замкаў; пазнаёміліся з экспазіцыяй Гродзенскага краязнаўчага музея, а таксама, прайшоўшыся па вуліцах горада, з касцёламі езуітаў і бернардынаў у Гродне; зацішана ўзгадвалі творы У. Караткевіча ў касцёле і на мурах замка ў Гальшанах, слухалі расповяд пра беларускіх татар, стоячы перад мячэццю ў Іўі; былі ўражаны магутнасцю Крэўскага замка, узрадаваны тым, як добра аднаўляецца палацава-паркавы комплекс у Залессі, дзе жыў вядомы кампазітар, дыпламат і грамадскі дзеяч М. К. Агінскі, наведалі музей Я. Купалы ў Вязынцы, кальвінісцкі збор і музей ў Заслаўі і, напрыканцы, адчуўшы повязь гадоў, прайшліся, схіліўшы галовы, з сумам у сэрцы, па святой зямлі Курапатаў.**

**Вечарамі, разбіўшы лагер у маляўнічых куточках Беларусі, каля вогнішча, пасля ўрачыстага ўздыму дзяржаўнага сцяга, гучалі спевы, вершы, расповяды пра мінулае і сучаснае нашай Бацькаўшчыны.**

**Добра прынялі вандроўнікаў адпачываючыя пансіяната «Купалінка» вытворчага аб'яднання «Гарант» пад Мінскам, перад якімі магілёўцы выступілі з канцэртам. Спявалі магілёўскія барды. Ужо добра вядомыя, дыпламанты першага нацыянальнага фэсту аўтарскай песні, Ігар Мухін-Рабянок і Сяржук Кулягін, а таксама Васіль Аўраменка, Павел Пастухоў, Вальжына Ясюкевіч, пранікнёна чытала вершы Таццяна Крукоўская.**

**Арганізавала і фінансавала дадзеную вандроўку Магілёўская арганізацыя БНФ «Адраджэнне».**

Ігар ПУШКІН,
дырэктар музея гісторыі Магілёва

*Рэчавыя і ментальныя помнікі славянскай цывілізацыі ў Еўропе заводзяць нас у VI стагоддзе нашай эры. Першы датаваны ўспамін пра славян адносіцца да 533 года з нагоды перамогі славян на Дунаі і паланення Хільбудыя. Глыбей — густая цемра, правал. Мэтай гэтага артыкула і з'яўляецца спроба правал гэты хоць у нейкай ступені пераадолець і аднавіць гістарычны шлях славян і перш за ўсё беларусаў у далетапісны і нават у даеўрапейскі перыяд іх быцця, або раскапаць хоць некаторыя камяні на гэтым шляху, каб пазнейшым даследчыкам было рухацца лягчэй...*

*Вучоныя праніклі ў глыбіню часу даволі далёка, знайшлі і працягваюць знаходзіць шмат дзіўнага і цікавага, ствараюць на падставе сваіх знаходак цікавыя і грунтоўныя тэорыі. Адна з такіх тэорый — тэорыя інда-еўрапейскай расы. Тэорыя сцвярджае і даказвае, што практычна ўсе еўрапейскія народы, прынамсі, народы раманскай, германскай, балцкай і славянскай моўных груп, паходзяць з Індыі. У мяне не хапае літаратуры, ведаў і часу, каб пацвердзіць ці абвергнуць гэту тэорыю адносна кожнага народа, таму маёй мэтай было даследаванне тэорыі ў стасунку да народа беларускага і па неабходнасці яго бліжэйшых суседзяў: славян, балтаў, часткова германцаў.*

***АЎТАР***

Станіслаў СУДНІК

# ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ АРЫЯЎ

ГІСТАРЫЯСОФСКІ НАРЫС

## ГУДЫ

Агульнапрызнанай гістарычнай аксіёмай з'яўляецца азначэнне, згодна з якім будучы беларускі народ утварылі тры славянскія плямёны: крывічы, дрыгавічы і радзімічы. Зараз да гэтай тройкі дабаўляюць шэраг драбнейшых славянскіх і балцкіх плямёнаў, а таксама племя «літва», якое можна смела лічыць чацвёртай складовай часткай беларускага этнасу. Але ёсць на Мастоўшчыне вёска Гудзевічы. Мясцовых краяведаў вельмі цікавіць, адкуль пайшла яе назва. Стандартная казка: «Жыў тут нейкі Гуд...» не ўспрымаецца народам, бо з пакалення ў пакаленне перадаецца паданне пра магутнае племя гудаў, нашчадкі якога нібыта і жывуць у Гудзевічах. Ды ні адна навуковая праца, ні адзін летапіс не называюць гэтага племені. Нават самая грунтоўная кніга па гісторыі Беларусі «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча не згадвае гудаў.

Калі мы заглянем у «Краткий топонимический словарь» выдавецтва БДУ, то знойдзем вялікую колькасць тапонімаў, звязаных з гудамі. Гэта: Гуды — сельсавет Валожынскага раёна, Гуды — чыгуначная станцыя на лініі Ліда-Вільня, Гудовічы — вёска Чэрвеньскага раёна, Гудава — вёска Верхнядзвінскага раёна, Гудава — вёска Дубровенскага раёна, Гудзішкі — вёска Іўеўскага раёна, Гадзелішкі — вёска Пастаўскага раёна, Гудзяняты і Гудзянешкі — вёскі Ашмянскага раёна, Гудагай — вёска і чыгуначная станцыя Астравецкага раёна. Акрамя таго, на Віленшчыне, недалёка ад мяжы з Беларуссю, ёсць вёска і хутар Гудакеніс, вёска Гударайцiс, а на паўночнай Украіне — вёска Гудзевічава.

Злучым гэтыя тапонімы на лініі: Гудзевічы — Гударайціс — Гудакеніс — Гудзелі — Гуды (Ліда-Вільня) — Гудзішкі — Гуды (Валожын) — Гудзяняты і Гудзянешкі — Гудагай — Гудзелішкі — Гудава (Верхнядзвінск) — Гудава (Дуброўна) — Гудовічы — Гудзевічава — Гудзевічы. Што ж мы атрымалі? Атрымалі тапанімічную мяжу, якая на ўчастку ад Гудзевіч да Гудава (Верхнядзвінск) вельмі дакладна паўтарае этнічную мяжу Беларусі з адступленнем ад яе на 40—50 км (вынік прасоўвання славян на поўнач у пазнейшыя часы). Заглянем яшчэ раз у «Старажытную Беларусь» Міколы Ермаловіча і пабачым, што наша лінія акрэсліла раён, які даволі дакладна супадае з раёнам рассялення дрыгавічоў. На ёй жа знаходзяцца і дрыгавіцкія тапонімы, такія як Дрыбучы, Дрысвяты, Друя, Дрыса і інш. Дык што ж вынікае? Ці два народы — гуды і дрыговічы — займалі разам адну і тую ж тэрыторыю, а потым гуды зніклі, не пакінуўшы следу, а дрыгавічы засталіся? Але тапонімы гудаў не старэйшыя за дрыгавіцкія, а нават больш яркія і шматлікія. Ці мо дрыгавічы асімілявалі нейкае балцкае племя гудаў і занялі іхнія землі? Але ж чаму тады жамойты называюць беларусаў гудамі (і не ўсіх славян, а менавіта беларусаў)? Відавочна, таму, што гуды атаясамліваліся імі менавіта з прашчурамі беларусаў... Але тады гуды не могуць быць балтамі, тым больш, што «гудас» па-жамойцку значыць яшчэ «чужы, прышлы». Акрамя таго, мы дакладна ведаем, што такімі чужакамі, якія вялі пастаянную экспансію на балцкія плямёны, і ў тым ліку на аўкштайтаў і жамойтаў, былі перш за ўсё дрыгавічы. Значыць, гудамі жамойты называлі дрыгавічоў. Дык мо ад слова «гудас» пайшлі назвы дрыгавіцкіх вёсак? Версія мела б рацыю, каб ёю можна было растлумачыць наяўнасць «гудскіх» тапонімаў у Верхнядзвінскім, Дубровенскім, Чэрвеньскім раёнах (раёны, памежныя з крывічамі), а таксама на Украіне (раён, памежны з драўлянамі), дзе ніякіх жамойтаў і блізка не было, а іншыя балцкія плямёны называлі беларусаў інакш. Напрыклад, латышы называлі і называюць нас «крыеўс», па імені племені, з якім давялося мець справу ім. З другога боку слова «гудас» магло ўзнікнуць ад гудаў, як у нямецкай мове слова «склавэ» (раб) узнікла ад славян.

Усе гэтыя разважанні вядуць да адной высновы: на акрэсленай намі тэрыторыі жыло некалі племя гудаў, якое балцкія плямёны атаясамлівалі з дрыгавічамі.

А што ж на самай справе? Ці два розныя плямёны драгавічы і гуды, ці гэта адно і тое ж? І ці былі наогул тыя гуды, пра якіх не згадвае ні адзін гісторык?

Для адказу на гэтыя пытанні заглянем у «Краіну арыяў».

## КРАІНА АРЫЯЎ

На Інда-Гангскай раўніне, паміж Гімалаямі і гарамі Віндх'я, каля 5000 гадоў да нашай эры існавала старажытная краіна Арыяварта (Краіна арыяў). Мела месца і назва Арыя-дэша, што абазначае тое самае. Менавіта гэтая краіна лічыцца асяродкам старажытна-індыйскай цывілізацыі. Але не толькі індыйскай.

Перш за ўсё, хто такія арыі? На старажытна-індыйскай мове «арыя» — значыць пан, прадстаўнік адной з трох вышэйшых кастаў. Слова «арыята» абазначае высакароднасць. Таму вядомае сцвярджэнне, што арыі былі пастухамі, мякка кажучы, пазбаўлена падстаў. Пастухі безумоўна былі, але гэта былі прадстаўнікі больш нізкіх кастаў. Арыі ж кіравалі краінай. Такі падзел сам па сабе гаворыць пра высокі ўзровень арыйскай цывілізацыі.

Сёння даволі цяжка сказаць, якія з вядомых у Краіне арыяў народаў жылі ў ёй спрадвеку, якія пакінулі яе раней, якія пазней, якія ніколі да арыйскай расы не належалі. Мы можам канстатаваць тыя факты, што шмат якія арыйскія народы ў II—IV тысячагоддзях да н. э. былі ўжо ў месцах іх новага сталага жыхарства. Назвы многіх народаў праніклі ў санскрыт пазней. Не кожны народ удаецца ідэнтыфікаваць з яго сучаснымі нашчадкамі. Мы можам назваць грэкаў-іанійцаў (явана), рымлян (рамака), няпальцаў (няпала), ланкійцаў (ланка), цюркаў (турушка), бенгальцаў (ванга), камбаджыйцаў (камбоджа), кашмірцаў (кашміра), персаў (паглава), пенджабцаў (паньчала), гунаў (гуна, гара-гуна). Але застаюцца дзесяткі, калі не сотні народаў, ад якіх засталася толькі назва без якой-небудзь прывязкі да месца і часу. Мне не пад сілу даследаваць усю краіну арыяў і ўсіх яе насельнікаў. Спынім увагу ўсяго на некалькіх народах, якія жылі ў ёй ці на памежжы...

Гэтымі народамі будуць: крыві, шрава, венука, гуда, дравіда і ў некаторай ступені кашала, лата і інш.

Не трэба валодаць празорлівасцю, каб зразумець, што мы будзем далей весці гаворку пра прашчураў беларускага і іншых славянскіх народаў.

Пачнём з народа «шрава». Слова «шрава» абазначае на санскрыце не што іншае, як «слава». Жыў гэты народ на ўсход ад цэнтра Краіны арыяў на поўнач ад Ганга, значна на ўсход ад сучаснага Дэлі, у басейне прытокаў Ганга.

Шравы — гэта народ высокай культуры, адзіны з пералічаных народаў, які меў вядомы і славуты горад, сваю сталіцу Шравасці. Безумоўна, наяўнасць горада прадугледжвала высокі ўзровень дойлідства, рамесніцтва і пісьменства. Пра пісьменства будзе асобная гаворка. Тут толькі нагадаем, што мы вядзём гаворку пра ведыйскі час, у якім калі не графіка дэвангары, то графіка брахмі ўжо была адназначна, бо захаваць усё багацце ведаў толькі ў памяці нават шматлікіх брахманаў было немагчыма...

Пра ўзровень культуры шраваў і значнасць Шравасці сведчыць той факт, што пазней, калі на гэтай тэрыторыі запанавалі кашалы, Шравасці стаў сталіцай вялікай краіны Кашала, якая ўключала ледзь не ўсю Індыю, і менавіта ў Шравасці нарадзіўся Буда.

На поўдзень ад шраваў у басейне Ганга і яго прытокаў жылі гуды. Балоцістая мясцовасць наклала свой адбітак на ўзровень іх культуры. Але і гуды не былі дзікунамі. Наадварот, гуды інтэнсіўна займаліся земляробствам, вырошчвалі цукровы трыснёг і выраблялі цукар. Не будзем забываць, што вядзём гаворку пра часы за 3,5—5 тысяч гадоў да нашай эры. Час сцёр сляды гудаў, але не да канца. Яшчэ гадоў 300 таму ў гэтым раёне існаваў саюз княстваў Гандвана. Да гэтага часу існуе невялікі народ гонды. Захаваліся і тапонімы, напрыклад гарады Гутні і Гутхні. Безумоўна, гэта далёка не ўсё, але ў незалежнай Беларусі мне не ўдалося адшукаць ні тапанімічнага слоўніка Індыі, ні больш-менш буйнога атласа...

Наступны народ «венука». Месца жыхарства яго зараз дакладна назваць цяжка, але «вента» значыць «лясны, дзікі». Таму хутчэй за ўсё венукі жылі ў лясах на ўсход ад шраваў і на паўночны ўсход ад гудаў. Можна адзначыць яшчэ, што гэта быў надта шматлікі народ.

І «крыві». Пра іх мы можам сказаць некалькі больш. «Крыві», акрамя назвы народа, мае значэнні крыніца, чалавек-хмара, мех для вады. Усё гэта дазваляе сцвярджаюць, што крыві карысталіся мяхамі для вады, насілі ваду, але ніхто не стане насіць мех з вадой па балоце ці лесе. Значыць, жылі яны ў больш засушлівых месцах, дзесьці ў баку пустыні Тар на захад ад шраваў і гудаў.

Мы не павінны прайсці міма і «дравіда», чыё імя і значыць «драўляне», хоць ніякіх больш звестак пра іх няма. Таму можна меркаваць, што жылі яны ў лясах дзесьці паміж шравамі і венукамі.

Трэба згадаць і народ «лата», які з усіх прабалцкіх плямёнаў адзін яскрава высвечваецца ў краіне арыяў, хаця яшчэ дагэтуль у Індыі жыве невялікі народ «балці», які мог калісьці ачаляць сям'ю прыбалцкіх народаў, як праславянскіх.

Такім чынам мы зрабілі беглы агляд краіны арыяў у разрэзе, які нас цікавіў. Мы вернемся сюды яшчэ не раз, але зараз павінны рушыць за крыві, шрава, гуды, венука і дравіда па шляху вялікага перасялення народаў.

## ВЯЛІКІЯ ПЕРАСЯЛЕННІ СЛАВЯН

Што пагнала насельнікаў Краіны арыяў з Індыі ў Еўропу? На гэтае пытанне адказаць цяжка. Ці гэта было перанасяленне, ці ціск іншых народаў, ці прага заваёваў? Я не шукаў і пакуль не маю намеру шукаць адказ на гэтае пытанне. Варта было б разабрацца са шляхамі, па якіх адбывалася гэтае перасяленне. Тут няма ніякай яснасці. Немцы лічаць, што германскія плямёны рухаліся па ўсходнім узбярэжжы Каспійскага мора і цераз паўночнае Прычарнамор'е. Рэшткі готскіх плямёнаў мы сапраўды бачым у Прычарнамор'і яшчэ ў XII ст. н. э. Славянскі след найбольш выразны на Балканах, але ёсць яшчэ адзін шлях — гэта шлях уздоўж усходняга Прычарнамор'я цераз Каўказ. І менавіта тут мы знаходзім гудскія тапонімы, такія як Гудаўта. Сыходзячы з рассялення праславян у Краіне арыяў, перадавую стадыю славянскай плыні павінны былі складаць крыві, самы заходні народ, за імі гуды ці шравы, і заключалі дравіда і венукі. І вось тут мы можам вярнуцца да пытання пра гудаў. Ужо было паказана, што крыві атрымалі сваё імя ад мяшкоў для вады. Рушыўшыя за імі гуды, дайшоўшы да засушлівых мясцін, мусілі таксама ўжываць мяхі для вады, але ў адрозненне ад крыві мяхі ў гудаў былі інакшыя і мелі іншую

**АД РЭДАКЦЫІ:**
*Падобна, эсэіст і паэт Станіслаў Суднік працягвае традыцыю светлай памяці Івана Ласкова — версіфікаванне гісторыі. Прыём, зазначым, надзвычай творчы і цікавы, асабліва калі ён заснаваны на факталагічнай базе... Спроба С. Судніка — заглянуць у дагістарычны час беларусаў і славян увогуле — ёсць вынікам асэнсавання шматлікіх крыніц і звестак, і, аддамо належнае аўтарскай смеласці, торыць шлях з блытанасці праблемы да будучых трывалых гістарычных канцэпцый. Як у свой час правакавалі навуку да новых падыходаў нарысы Івана Ласкова.*

# Сяргей НОВІК-ПЯЮН

26 жніўня памёр старэйшы беларускі пісьменнік Сяргей Новік-Пяюн (Сяргей Міхайлавіч Новік). Ад нас пайшоў чалавек рэдкага, трагічнага лёсу, шчыры і самаахвярны змагар за нацыянальнае Адраджэнне Беларусі.

Нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн 27.08.1906 года ў вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў збяднелай сялянскай сям'і. У 1924 годзе скончыў Нясвіжскую рускую гімназію, затым беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні (1926). У тым жа годзе стварыў для землякоў беларускі народны хор, народны тэатр, бібліятэку і тайныя беларускія школы. За актыўны ўдзел у руху за нацыянальнае Адраджэнне Беларусі быў асуджаны пілсудчыкамі спачатку на пяцігадовую ссылку на Памор'е (1926—1931), а ў 1931 — пад паліцэйскі нагляд у горад Слонім. З сакавіка па верасень 1939 года ён — палітычны вязень Баранавіцкай турмы.

У савецкі час працаваў інспектарам Слонімскага райана (1939—1940), дырэктарам Слонімскага краязнаўчага музея (1940—1941). У 1943 годзе за антыфашысцкую дзейнасць быў асуджаны да пакарання смерцю, трапіў у Колдычэўскі лагер, дзе цудам выратаваўся з-пад расстрэлу. Пасля вызвалення партызанамі з лагера працаваў дырэктарам Слонімскага музея (1944). 14.12.1944 года арыштаваны, а ў сакавіку 1945 года ваенным трыбуналам НКУС Баранавіцкай вобласці асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў на Калыме. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі 5.11.1958 года. У 1959 годзе вярнуўся на Беларусь, жыў у Слоніме, Нясвіжы, а з 1960 года ў Мінску.

Друкаваць вершы пачаў у 1925 годзе ў віленскіх прагрэсіўных беларускіх газетах і часопісах. У Вільні асобнымі выданнямі выходзілі п'есы «Цудоўная ноч» (1927), «Ёлка Дзеда Мароза» (1927), «Прадка над крыжам» (1939), у зборніку «Сцэнічныя творы» (1927) — п'еса «Пакой у наймы». Аўтар зборніка паэзіі «Заўсёды з песняй» (1984), кніжкі вершаў для дзяцей «Зорачкі ясныя» (1986).

На многія гады гвалтоўна адарваны ад роднай бацькаўшчыны, кратамі ўсіх рэжымаў Сяргей Новік-Пяюн склаў песні, якія загучалі ў народзе, як гімн свабодзе і незалежнасці (песні «Зорачкі», «Краска шчасця», «Над Шчарай» і інш.).

Светлая памяць пра паэта-змагара, сапраўднага патрыёта-беларуса Сяргея Новіка-Пеюна будзе жыць у нашых сэрцах, пакуль жыве Беларусь.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**



Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ

## БЫВАЙ!

**Бывай, мой Дружа даражэнькі,**
**Спыніўся твой жыццёвы крок,**
**Прымі тужлівых слоўцаў жменьку,**
**З якіх я звіў табе вянок.**

**Няўхільны лёс растаццa змусіў...**
**Бывай, Паэт, бывай, Пяюн,**
**Ты жыў, пяяў для Беларусі,**
**Не шкадаваў душэўных струн.**

**Ты мужным сэрцам, мудрым Словам**
**Імкнуўся ўвесь Сусвет абняць...**
**«... гудзе зялёная дуброва,**
**Жалобна «Зорачкі» гараць...**

**Бывай, мой Дружа даражэнькі!**

---

назву «дрыці». Гэтыя «дрыці» і далі «дрыты, дрыгавіты, дрыгавічы». Дарэчы, большасць дрыгавіцкіх тапонімаў на Беларусі па гучанню бліжэй да формы «дрыці» (Дрыса, Друя, Дрысвяты), чым да позняй, стылізаванай формы «дрыгавічы» (Драгічын).

Такім чынам «гуды» і «дрыгавічы» — гэта два імені аднаго і таго ж народа. І толькі таму назіраецца такое супадзенне іх тапанімічных межаў.

Другое пытанне. Чаму ўсе гэтыя розныя народы называюцца славянамі, калі самі шравы-славяне былі асобным народам? Мы паказвалі, што шравы былі самым высокацывілізаваным народам з сям'і сваяцкіх праславянскіх народаў, блізкіх па мове і культуры. Таму іх імя было больш вядомым і агульнае імя «славяне» развілася не з саманазвы, а з назвы найбольш вядомага ў славянскім свеце племені, хаця і не самага шматлікага.

...Рух славян не мог быць бясконцым. І ён спыніўся. Месцам прыпынку стаў раён вярхоўя Прыпяці, Буга, Віслы. Што іх тут спыніла? Хутчэй за ўсё яны прыйшлі на занятую ўжо тэрыторыю. Безумоўна нельга лічыць, што тут у гурт сабраліся ўсе славяне. Адстаўшыя венукі-венеды толькі пачыналі набліжацца, калі з гэтага раёна, як з зыходнага пункта, славянскія плямёны рушылі ва ўсе бакі.

Авангард крыві-крывічоў прадоўжыў рух наперад. Пранікаючы паміж балцкімі і угра-фінскімі плямёнамі, цярэбячы свой шлях мячом і сякерай, яны засялілі вялізарныя тэрыторыі ажно да Белага мора і за межамі гэтых тэрыторый іх практычна нідзе больш няма.

Шравы-славяне раскінуліся ва ўсе бакі, і мы знаходзім іх на Ільмені (славяне), у Славакіі, на Балканах (славенцы).

Гуды-дрыгавічы прадоўжылі рух за крывічамі, але частка іх аказалася і на Балканах.

Дравіды-драўляне рушылі ад пункту прыпынку на паўднёвы ўсход.

Венукі-венеды хутчэй за ўсё не рабілі зваротнага руху, а толькі паступальны, пакуль не ўперліся ў непераадольную сцяну германскіх плямёнаў на захадзе і Балтыйскага мора на поўначы, якое ў Скандынавіі з гэтага часу пачало называцца морам Венедскім.

Безумоўна, мне не ўдалося ідэнтыфікаваць усе плямёны. Сербаў не ўдалося адшукаць у краіне арыяў, але ўжо з нашага пункту прыпынку яны расходзіліся на Лабу і Балканы, маючы сваё імя.

Складанымі былі вандроўкі славян па Еўропе. Плямёны дзяліліся і аб'ядноўваліся, знікалі і ўзнікалі, бралі імёны сваіх правадыроў ці мясцовасці і рухаліся, рухаліся, рухаліся...

Рух славян з Індыі не мог доўжыцца тысячагоддзі, але мы не можам сёння назваць ні год іх выхаду з Індыі, ні год прыходу ў Еўропу. Можна толькі сказаць цвёрда, што за гэты час адбылася значная страта культурных каштоўнасцяў. Славянская цывілізацыя была адкінута да першабытна-абшчыннага ладу, да натуральнай гаспадаркі. Вось гэты стан мог доўжыцца тысячагоддзі. Але згублена было далёка не ўсё. Рост славянскай цывілізацыі ў Еўропе пачынаўся не ад малпы, а на базе часткова захаваных ведаў, вынесеных з далёкай прарадзімы.

Адолеўшы перыяд варварства, набраўшыся моцы, славяне імкліва, пачынаючы з VI стагоддзя, вырываюцца на арэну еўрапейскай гісторыі.

Гаварыць пра нейкі адзіны славянскі народ не выпадае, але можна гаварыць пра нейкую праславянскую племянную мазаіку, пры якой прамежкі паміж старымі арыйскімі плямёнамі запаўнялі плямёны новыя, узнікшыя ў выніку драблення і адшчаплення ад іх.

Найбольш шматлікім было племя венедаў. Яно заняло абшары ад Балкан да Балтыкі. Тут мы павінны спыніцца не імені. Імя венедаў паходзіць ад назвы народа венука, а гэтая назва ў сваю чаргу ад слова «вента», якое сугучна са словам «анта». «Анты», «антычны» — гэтыя словы бяруць пачатак ад лацінскага «анціквус» — (старажытны). Таму, калі даследчыкі VI стагоддзя гавораць пра дзеянні антаў і склавекаў на Дунаі, мы павінны разумець, што гаворка ідзе пра венедаў і прашчураў сучасных славенцаў. У гэты ж час пачынаюць узнікаць дзяржавы і гарады венедаў. Гэта перш за ўсё Вендэбург (сучасная Вена). Вендэбург — назва нямецкая. Як гэта гучала па-венедску? Мо, Вендаград? Венедскай была і вёска Барліна, што значыць на санскрыце «сумежны з варварамі». Зараз гэта Берлін. З венедскіх плямёнаў вылучыліся і паляне кіеўскія і кракаўскія. Таму Кіеў і Кракаў можна таксама адносіць да венедскіх гарадоў. Венедскімі былі хутчэй за ўсё і летапісны Дэвін, што на санскрыце значыць «божы», і Велеград, які заснаваў Маймір не пазней 830 года і ў якім Канстанцін Філосаф стварыў славянскую азбуку «кірыліцу».

Ільменскія славяне заснавалі Новы горад. Узнікае пытанне: калі Новы, то дзесьці павінен быць і стары. Ці не лічылі славяне старым горадам свой далёкі Шравасці?

Славакі мелі горад Блашна.

Крывічы заснавалі Полацк, Смаленск, Пскоў і Крыў-горад, які з цягам часу стаў Крывым горадам, а пасля Вільняй.

Шмат спрэчак існуе вакол горада гудаў-дрыгавічоў Турава. Якіх толькі версій не выдумана, каб вытлумачыць імя Тур, як цягнуць яго да Скандынавіі. А дзеля чаго? Калі ўжо не задавальняе паганскае імя Тур ад ляснога быка, то звернемся да санскрыту. У старажытнай Індыі вельмі высока цаніўся конь. Называць дзяцей такім імем — справа звычайная. Напрыклад, сёння палова Індыі мае прозвішча Сінга, што значыць «леў». Дык «конь» на санскрыце і гучыць як «тур».

Калі ўжо мы дайшлі да тлумачэння славянскіх імёнаў на падставе санскрыту, то не можам прайсці міма відавочнага сугучча імені «Рагнеда» са словам «Рыгведа», назвай першай часткі самай старажытнай на зямлі кнігі «Веды». Калі ўлічыць, што імёны ў старажытнасці былі радавыя, то і імя «Рагвалод» магло трансфармавацца з «Рыгвед». Тады здымаюцца ўсялякія пытанні пра рог, якім валодаў Рагвалод...

Я пакідаю ўбаку змаганне славян з аварамі ў VI—VII стагоддзях і больш позні рух славянскіх плямёнаў, у тым ліку і на Беларусі. Пра гэта ўжо шмат напісана. Зараз я вымушаны звярнуцца да яшчэ адной састаўной часткі беларускага народа, дакладней да некалькіх частак, буйнейшай з якіх было племя «літва».

## ЛІТВА, ДАЙНОВА, ДЗЯВОЛТВА, БАЛЦІ

Літву, дайнову, дзяволтву, яцвягаў, прусаў, аўкштайтаў, жэмайтаў, ліваў, латаў і некаторыя іншыя народы ў нас прынята адносіць да этнічнай групы — балты. Большасць разумее гэты тэрмін як «прыбалты», г. зн. народы, якія жывуць ці жылі ў Прыбалтыцы. Але адкуль пайшла назва Балтыйскага мора? Я ўжо прыпамінаў, што і сёння ў Індыі жыве племя з імем «балці», якое некалі магчыма дало назву цэлай групе плямён. Разам з тым з усіх пералічаных балцкіх плямён у краіне арыяў упамінаецца толькі народ лата, што дазваляе гаварыць пра тое, што астатнія назвы маюць пасляарыйскае паходжанне.

Нас у гэтым пераліку цікавяць перш за ўсё літва, дайнова, дзяволта і ў некаторай ступені яцвязь або яцвягі. Характэрным для іх з'яўляецца канчатак -ва, у тым ліку і трансфармаваны ў словах яцвязь, яцвягі.

Тапонімы з канчаткам -ва шырока рассеяны па ўсёй тэрыторыі летапіснай Літвы. Гэта: Дзітва, Сваротва, Балохва, Літва, Дайнова, Хатова і інш. Заглянем яшчэ раз у Краіну арыяў. Ва ўсходняй яе частцы і вакол яе знаходзім мноства тапонімаў з канчаткамі на -ва. Гэта: Бетва, Рыва, Махова, Ітава, Дудва, Дзева, Ітва, Тарва, Дзерва, Хасва, Пурва, Гарва, Катва, Дхова, Дхава, Джарва, Таўліхава, Ава і інш. Што ж значыць такі распаўсюджаны канчатак -ва? Ёсць у санскрыце такое слова «ванша», што значыць «род, сям'я, радаслоўная». Ваншанара — заснавальнік роду. Канчатак -ва ў прыведзеных тапонімах абазначае ні што іншае, як «род, сям'я». Таму слова «Літ-ва» трэба разумець як «род Літа»... Але на Балканах сярод славянскіх плямёнаў мы сустракаем племя літва, якім кіруе князь Лют! Такім чынам, хутчэй за ўсё так і трэба разумець: Літ-ва, ці Лют-ва — род Люта. Род Люта — найбліжэй за ўсіх да летапісных люцінаў, якіх наша гістарычная навука адносіць да славян! Дарэчы, «Люта» на санскрыце значыць «павук», «лютхана» — «рабаўнік», «лютх» — наносіць удар, рабаваць. Параўнайце з «Люты». Дык ці не выходзім мы на тое, што літва была славянскім племенем? За гэтую версію гавораць тыя факты, што:

а) тапонімы на -ва ў Індыі групуюцца ў месцах жыхарства праславянскіх плямёнаў;

б) суфікс -в- характэрны для славянскіх моў пры паказе паходжання (Іванавіч, Пятровіч, Іванова, Пятрова);

в) ні адно імя князёў летапіснай Літвы не перакладаецца на жамойцкую і іншыя балцкія мовы, большасць з іх мае славянскія карані (Міндоўг, Войшалк, Віцень, Трайдзень, Вітаўт);

г) Літва ніколі не разглядалася полацкімі князямі як варожая краіна;

д) нідзе няма ніякага ўспаміну пра мову Міндоўга, што можа быць тады, калі цяжкасцяў з ёю не было;

е) лёгкасць, з якой Наваградак браў у князі то Міндоўга, то Войшалка, сведчыць пра прыязныя, сваяцкія адносіны Наваградскай зямлі з летапіснай Літвой;

ж) назва горада Міндоўга — Рута мае славянскі корань...

Супраць вышэйвыкладзенай версіі — толькі гісторыкі шматлікіх пакаленняў, якія не адносяць Літву да славян. Памірыць гэтыя версіі можна наступным азначэннем: «Літва — частка славянскага племені люцічы, якая, нырнуўшы ў балцкую стыхію, выбілася з агульнага рэчышча славянскага развіцця.

Літва была звязана ніткамі этнічнага сваяцтва як з балтамі, гэтак і са славянамі, і менавіта гэтая якасць перадумовіла яе лёгкую і поўную славянізацыю. Але, сказаўшы такое пра Літву, ці не можам мы сказаць прыблізна такое ж пра Дайнову і Дзяволтву?

*(Працяг будзе)*

**Калектыў супрацоўнікаў музея выказвае спачуванне кіраўніку Народнага маладзёжнага жаночага хору «Менка» Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту Уладзіміру СІНЕЛЬНІКУ з прычыны смерці жонкі.**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі** ***332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара** ***332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі** ***332-525***
**пісьмаў і грамадскай думкі** ***331-985***
**літаратурнага жыцця** ***332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі** ***332-204***
**паэзіі і прозы** ***332-204***
**музыкі** ***332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання** ***332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў** ***332-462***
**навін** ***332-462***
**мастацкага афармлення** ***332-204***
**фотакарэспандэнт** ***332-462***
**бухгалтэрыя** ***268-640***



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 1.09.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

